● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● цана 1000 рублёў

16 лістапада 1996 г. субота, № 269 (23072)



# ЗВЯЗДА

*РОЗГАЛАС*

## ЗАХОП ЗЛАЧЫНЦАЎ У ЛІДЗЕ

**Як паведамляе прэс-цэнтр Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, учора ў Лідзе работнікі Галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі і ўпраўлення Камітэта Дзяржаўнай бяспекі затрымалі злачынную групу ваеннаслужачых, якія займаліся крадзяжом баявой агнястрэльнай зброі, выбуховых прыстасаванняў, боепрыпасаў і гандлем імі.**

У іх знойдзена 10 шасцістволыных гармат калібру 30 мм, якія ўжываюцца для стральбы на ваенных самалётах, 40 кг трацілу і 2000 патронаў рознага калібру.

Па папярэдніх звестках, зброя была ўкрадзена падчас вываду расійскіх войскаў з тэрыторыі рэспублікі і прызначалася для продажу злачынным групоўкам.

**Віктар ПАТАПЕНКА, прэс-цэнтр МУС Рэспублікі Беларусь.**

## ІМЯ ПЯТРА МАШЭРАВА ПРЫСВОЕНА СТАЛІЧНАЙ ШКОЛЕ

**Імя Пятра Міронавіча Машэрава прысвоена сталічнай школе № 137.**

У 1987 годзе яе педагагічны калектыў і вучні стварылі музей, прысвечаны гэтаму вядомаму дзяржаўнаму дзеячу, які пакінуў аб сабе ў Беларусі добрую памяць. Тут захоўваюцца асабістыя рэчы Пятра Міронавіча, фатаграфіі і дакументы, падораныя школе яго сям'ёй. А два гады таму музей быў удастоены звання народнага.

**Аксана ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ЗЛАМЫСНІКАМІ АКАЗАЛІСЯ... ШКОЛЬНІКІ

**Крушэнне грузавога цягніка, які прыбываў на станцыю Жлобін, удалося прадухіліць машыністу мясцовай манеўровай брыгады цеплавоза і складальніку цягнікоў, якія пры абходзе ўчастка знайшлі на галоўным пуці ўстаноўленыя тармазныя башмакі.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Беларускай чыгункі, зламыснікаў, якія стварылі аварыйную сітуацыю, затрымалі. Імі аказаліся два вучні школы №2 Жлобіна. У ходзе разбораў высветлілася, што тармазныя башмакі, якія з'яўляюцца інвентаром строгага ўліку, школьнікі ўзялі на тэрыторыі Жлобінскага гармалзавода, дзе ёсць свае чыгуначныя пад'язныя пуці. Тут жа ў наяўнасці яўная халатнасць адпаведных службовых асоб гэтага прадпрыемства. Адным словам, гэтым фактам зацікавіліся следчыя органы.

Застаецца толькі дадаць, што з пачатку года на Беларускай чыгунцы зафіксавана больш за 50 такіх злачынстваў, калі на рэйкі былі накладзены небяспечныя для руху паяздоў рэчы.

**Тацццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## ПРЫСВОЕНА ВОІНСКАЕ ЗВАННЕ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў 14 лістапада Указ аб прысваенні палкоўніку Генадзю Сямёнавічу Наркевічу чарговага звання генерал-маёра.

**БЕЛТА.**

*Увага!*

**«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»**

Ужо тры гады ў нашай рэспубліцы праходзіць зямельная рэформа.

Якімі тэмпамі яна ідзе? Колькі каштуе гектар зямлі? Хто можа яе купіць? Ці не станем мы сведкамі з'яўлення ў Беларусі новага класа — памешчыкаў? Ці ёсць будучыня ў фермерскіх гаспадарак, калі сённяшні дзень іх нялёгкі? Як рэалізуецца права наследавання зямлі?

**На гэтыя і іншыя пытанні вам, паважаныя чытачы, адкажа старшыня Камітэта па зямельных рэсурсах Рэспублікі Беларусь Георгій Іванавіч КУЗНЯЦОЎ.**

**«Прамая лінія» адбудзецца 20 лістапада.**

**Вашых званкоў чакаем з 11 да 12 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92.**

***Папярэдне тэлефануйце па нумары 268-27-50, а таксама дасылайце лісты з пытаннямі на адрас: 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, рэдакцыя газеты «Звязда» (з пазнакай «Зямельнае пытанне»).***



## Ураджай неблагі. А фінансы — па нулях...

**У калгасе імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна зямлі прыкладна столькі ж, колькі і ў іншых гаспадарках раёна. А ўзялі ад яе значна больш, чым многія іншыя.**

За 10 месяцаў тут прадалі прадукцыі на 28 мільярдаў рублёў. З улікам таго, што яшчэ будзе рэалізавана, у гаспадарцы маркуюць атрымаць на канец года 34—35 мільярдаў рублёў (вядома, гэта лічба будзе адлюстроўваць вынікі ўсёй вытворчай дзейнасці). Прыбаўка валавога прадукту адносна папярэдняга года павінна скласці каля 40 працэнтаў. Цяпер у гаспадарцы практычна заканчваецца ўладкаванне ўсяго вырашчанага — што закладзена на захоўванне, а большая частка затарваецца і адпраўляецца па адрасах пакупнікоў, у тым ліку ў Расію. Штодзённа каля дзесятка аўтамашын выязджаюць у Мінск — для рэалізацыі «з колаў».

А, скажам так, падкупіць пакупніка ёсць чым. Сёлета ў гаспадарцы немалая колькасць прадукцыі вырашчана па інтэнсіўных галандскіх тэхналогіях, прычым за правільным выкарыстаннем гэтых тэхналогій сачылі самі ж галандцы, якія бывалі ў калгасе наездамі — прэтэнзій з іх боку не было. На адным з «галандскіх» капусных палёў у гаспадарцы знялі каля 800 цэнтнераў з гектара. Адрозненне ад сярэдняй ураджайнасці — амаль два з лішкам разы. У цэлым ураджайнасць агародніны на адкрытым грунце склала 167 працэнтаў адносна папярэдняга года; а яе сабекошт меншы амаль напалову. Эфектыўнасць — відавочная.

Лепшыя, чым у папярэднім годзе, вынікі мае гаспадарка і па іншых культурах, прычым вырашчаных і па традыцыйных тэхналогіях. Але пераважны рост далі менавіта галандскія, прычым найперш і найбольш — у цяплічнай гаспадарцы калгаса. Такі красамоўны факт: вышэй ужо называлася сума, на якую калгас прадаў сваёй прадукцыі за 10 месяцаў, — 28 мільярдаў рублёў. З іх 18 мільярдаў «узялі» менавіта з цяпліц. Нават калі ўлічваць тое, што з цяпліц браць практычна ўжо няма чаго (яе рыхтуюць цяпер пад ураджай будучага года), пры гэтым мець на ўвазе маркуемы агульны валавы прадукт за год, — цяплічны «фактар», тым не менш, павінен застацца на першым месцы.

Як зазначана ўжо, у цяплічнай гаспадарцы — таксама галандская тэхналогія. Прычым гэта тэхналогія тут найбольш характэрная. У нашай газеце паведамлялася ўжо пра яе прымяненне ў гаспадарцы, нагадаем яе сутнасць: згодна з ёй, кожная расліна атрымлівае штучнае сілкаванне з агульнага растворнага вузла. Прычым раствор мае ў найлепшым спалучэнні ўсе тыя элементы, якія патрэбны раслінам для іх росту і плоданашэння. У працэсе ніякім чынам не ўдзельнічае традыцыйная глеба, зямля: карані раслін находзяцца ў інертным матэрыяле. За заданым працэсам і пэўным рэжымам строга сочыць электроніка... Сёлета ў цяпліцах гаспадаркі знялі па 25 кілаграмаў агуркоў і памідораў з кожнага квадратнага метра — намнога больш, чым раней — пры традыцыйнай «земляной» тэхналогіі.

*НА ЗДЫМКУ: добра працуе ў цяпліцы Ганна НАСЦІНА.*

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**

***ПАВАЖАНЫЯ ПРАЦАЎНІКІ АГРАПРАМЫСЛОВАГА КОМПЛЕКСУ!***

*Заканчваецца чарговы сельскагаспадарчы год. Залатая восень падводзіць вынікі працы раслінаводаў, жывёлаводаў, механізатараў, фермераў, работнікаў перапрацоўчых і абслуговых прадпрыемстваў, спецыялістаў і кіраўнікоў усіх узроўняў вытворчасці і кіравання, вучоных, ветэранаў сельскагаспадарчай вытворчасці і сельскай моладзі, а таксама работнікаў сацыяльна-культурнай сферы ў вёсцы.*

*Дзякуючы вашай працавітасці, прафесіяналізму, развітому пачуццю абавязку атрымана важкая аддача палёў і ферм. Больш чым летась сабрана збожжа і бульбы, нарыхтавана кармоў. Пераадольваецца зацяжны спад у жывёлагадоўлі.*

*Тысячы сялян унеслі свой уклад у наш беларускі каравай. Лепшыя з лепшых атрымалі ўсеагульнае прызнанне, іх урачыста ўшаноўвалі ў працоўных калектывах, на ўсенародным свяце сельскіх працаўнікоў «Дажынкі». Героі ўборкі, перадавікі ў жывёлагадоўлі і іншых галінах аграпрамысловага комплексу складаюць залаты фонд вёскі.*

*Вы, людзі працы, як ніхто іншы разумееце, што толькі мы самі можам вырашыць свае праблемы. Гэта надае ўпэўненасць у тым, што сумеснымі намаганнямі мы пераадолеем цяперашнія цяжкасці, забяспечым нашых людзей прадуктамі харчавання, а прамысловасць — патрэбнай сыравінай.*

*Глыбока ўсведамляючы, што ад становішча спраў у аграрным сектары залежыць жыццядзейнасць грамадства, дабрабыт кожнай сям'і, разумеючы высокую адказнасць за лёс краіны перад наступнымі пакаленнямі, буду і ў далейшым як Прэзідэнт прымаць усе меры для падтрымкі вёскі.*

*Дарагія вяскоўцы! У сувязі з вашым прафесіянальным святам прыміце сардэчныя віншаванні і падзяку за вашу гераічную і самаадданую працу.*

*Жадаю вам і вашым сем'ям добрага здароўя, дабрабыту, поспехаў у далейшых справах на карысць нашай Радзімы.*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

**Старшыні Дзяржаўнай Думы Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі Селязнёву Г. М.**

*Паважаны Генадзь Мікалаевіч!*

*Ад усёй душы дзякую Вам і вашым калегам за прадастаўленую мне магчымасць выступіць у Дзяржаўнай Думе. Ваш сяброўскі прыём яшчэ больш умацаваў уява мне рашучасць дабівацца аднаўлення ў поўным аб'ёме традыцыйнай дружбы нашых брацкіх народаў і інтэграцыі Расіі і Беларусі. Сапраўды неацэнная ў гэтым працэсе роля парламентарыяў двух краін.*

*Перакананы, што асабістыя кантакты палітыкаў даюць магчымасць паскорыць рэалізацыю палітычных рашэнняў і волі народаў нашых дзяржаў, накіраваных на інтэграцыю Расіі і Беларусі. Такія сустрэчы даюць магчымасць лепш зразумець пазіцыі адзін аднаго, садзейнічаюць усведамленню таго простага факта, што адзінства Беларусі і Расіі вышэй за волю і інтарэсы асобных палітыкаў і палітычных партый.*

*Дазвольце выказаць падзяку за ўвагу і цёплы прыём кіраўнікам асноўных думскіх фракцый і груп: Сяргею Георгіевічу Бяляеву, Мікалаю Міхайлавічу Харытонаву, Генадзю Андрэевічу Зюганаву, Уладзіміру Вольфавічу Жырыноўскаму, Мікалаю Іванавічу Рыжкову, Уладзіміру Сяргеевічу Мядзведзеву, а таксама Старшыні Камітэта па супрацоўніцтву з краінамі СНД і сувязях з суайчыннікамі Ціханаву Георгію Іванавічу. Запрашаю Вас і кіраўнікоў фракцый Думы, усіх дэпутатаў расійскага парламента прыехаць у Беларусь і яшчэ раз пераканацца, што яднанне з Расіяй адпавядае волі большасці беларускага народа, а кіраўніцтва краіны ставіцца да гэтага пытання не як да палітычнай акцыі, а як да важнейшага напрамку сваёй дзейнасці.*

**А. ЛУКАШЭНКА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### № 469

### Аб Старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў

У сувязі з палітычнымі заявамі і дзеяннямі Старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. І. Ганчара, якія накіраваны на зрыў рэферэндуму (народнага галасавання) у Рэспубліцы Беларусь, парушаюць канстытуцыйнае права грамадзян на ўдзел у рэферэндуме (народным галасаванні) і выходзяць за межы яго службовых паўнамоцтваў, а таксама парушэннем устаноўленага артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» парадку вылучэння В. І. Ганчара ў састаў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў і ў адпаведнасці з пунктам 1 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Зняць Ганчара Віктара Іосіфавіча з пасады старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

2. Ускласці выкананне абавязкаў старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў на члена названай камісіі Ярмошыну Лідзію Міхайлаўну.

3. Прапанаваць Пракуратуры Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанне аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб, вінаватых у парушэнні парадку вылучэння В. І. Ганчара ў састаў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

4. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*14 лістапада 1996 г., г. Мінск.*

## У ЛІСАБОНЕ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА МАЕ НАМЕР ВЫСТУПІЦЬ З ШЭРАГАМ ІНІЦЫЯТЫЎ

Як паведамляла ўжо БЕЛТА, 2-3 снежня ў Лісабоне адбудзецца сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін-членаў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. На апошнім брыфінгу ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі першы намеснік міністра Валерый Цапкала адзначыў, што гэты саміт прыме заключны дакумент, асноўная частка якога -- даклад Венскай агляднай канферэнцыі. Гэты дакумент будзе істотна ўдасканальваць праграму АБСЕ да наступнага агляду ў 1998 годзе і стане прадметам абмеркавання на сустрэчы міністраў замежных спраў, якая прысвечана яе выкананню і намечана на 1997 год.

Згодна з інфармацыяй Валерыя Цапкалы, на лісабонскім саміце АБСЕ прагучаць звароты дзеючага старшыні арганізацыі Флавіо Коці, тэрмін паўнамоцтваў якога заканчваецца ў наступным годзе, генеральнага сакратара ААН Бутрас Галі, старшыні Парламенцкай асамблеі АБСЕ Хаўера Руберэса. Праграмай правядзення саміта прадугледжваюцца таксама выступленні кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін, якія прымаюць удзел у форуме.

Паводле слоў першага намесніка міністра замежных спраў Беларусі, на сустрэчы прадугледжваецца прыняць дзве дэкларацыі -- агульнапалітычную і па мадэлі агульнай і ўсёабдымнай бяспекі для Еўропы ў XXI стагоддзі. Як вядома, цяпер мадэлі агульнаеўрапейскай бяспекі на наступныя стагоддзе надаецца адно з першарадных значэнняў. Больш таго, цяпер, паводле слоў Валерыя Цапкалы, шукаюць магчымасць аб'яднаць інстытут АБСЕ з інстытутамі бяспекі на кантыненце, якія ўжо зарэкамендавалі сябе.

Гэта пытанне будзе закранута і Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, які мае намер прыняць удзел у рабоце саміта. Акрамя таго, як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, кіраўнік дзяржавы ў сваёй прамове мае намер унесці і шэраг ініцыятыў, з якімі выступае наша краіна. Паводле слоў кіруючага работніка Міністэрства замежных спраў Беларусі, пазіцыя рэспублікі ў пытаннях бяспекі даволі глыбока прапрацавана. Дарэчы, Беларусь у сваіх ініцыятывах ужо заручылася падтрымкай шэрага еўрапейскіх дзяржаў.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## *Увага!* «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**Тэма забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання на сённяшні дзень выйшла на пярэдні край нашага жыцця. Чамуназіраліся перабоі ў гандлі тымі ці іншымі харчовымі таварамі, як ліквідуюцца недахопы, што наогул чакае спажыўца зімой, ці застануцца ранейшымі рэнічныя цэны на харчаванне?**

Гэтыя пытанні «Звязда» асвятляла раней, інфармуе чытачоў і зараз, але лістоў і тэлефонных званкоў у рэдакцыю ад гэтага не меней. Людзей хваліе літаральна ўсё, пачынаючы ад таго, ці будзе заўтра ў магазіне танная каўбаса, і заканчваючы праблемай існавання і рэфармацыі ўсяго гандлю ў сучасных умовах. Што ён збіраецца нам прапанаваць у плане паляпшэння абслугоўвання ў бліжэйшы час, ці падымецца ці на ногі, нарэшце, прыватны бізнес у гэтай галіне?

**На гэтыя і шматлікія іншыя пытанні, шаноўныя чытачы, вам адкажа міністр гандлю краіны Пётр Афанасьевіч КАЗЛОЎ.**

***«Прамая лінія» адбудзецца ў пятніцу, 22 лістапада. У гэты дзень чакаем вашых званкоў з 12 да 13 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92. Папярэдне вы можаце задаваць пытанні па нумару 268-27-41, а таксама дасылаць лісты на адрас: 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, рэдакцыя газеты «Звязда» (з пазнакай «Пытанне міністру гандлю).***

# НОВУЮ СЕРЫЮ РАБОЧЫХ ПАЕЗДАК ПА КРАІНЕ ПРЭЗІДЭНТ ПАЧАЎ З МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

Наведваннем аўтамабільнага завода імя Кірава пачалася 15 лістапада рабочая паездка Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі на Магілёўшчыну. Яна паклала пачатак новай серыі паездак кіраўніка дзяржавы па розных рэгіёнах рэспублікі, якія ён зробіць у бліжэйшы час.

Магілёўскі аўтазавод спецыялізуецца на выпуску дарожна-будаўнічых машын і з'яўляецца манапалістам на тэрыторыі СНД па вытворчасці гэтага віду тэхнікі. Як сказаў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА галоўны інжынер завода Мікалай Барысаў, толькі наменклатура выпускаемай прадукцыі дала магчымасць прадпрыемству ўтрымацца на плаву. Але большасць яе цяперашніх пакупнікоў можа разлічвацца за яе толькі таварамі і сыравінай. Бартэр даходзіць да 70 працэнтаў, а заводу патрэбна валюта для набыцця камплектуючых матэрыялаў, пашырэння вытворчасці. Таму кіраўніцтва прадпрыемства звярнулася да Прэзідэнта з просьбай аб выдзяленні 2 мільёнаў амерыканскіх долараў крэдыту. Аляксандр Лукашэнка ўжо аказаў дапамогу гэтаму прадпрыемству, пасадзейнічаў у атрыманні 28 мільярдаў рублёў крэдыту. Такія адносіны менавіта да гэтага завода кіраўнік дзяржавы растлумачыў тым, што выпускаемая тут прадукцыя ідзе ў асноўным на экспарт. А нарошчванне экспарту, як вядома, адзін з галоўных напрамкаў прэзідэнцкай праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

У час наведвання аўтазавода Прэзідэнт азнаёміўся з вырабляемай тут тэхнікай, пагутарыў з рабочымі прадпрыемства. Кіраўніка дзяржавы цікавілі перш за ўсё ўмовы жыцця рабочых, іх забяспечанасць жыллём, наяўнасць прадуктаў харчавання ў магазінах. Дарэчы, аб насычанасці мясцовых прылаўкаў Прэзідэнт даведаўся асабіста, наведаўшы некалькі гандлёвых кропак.

Кароткія гутаркі кіраўніка дзяржавы з рабочымі адбыліся і на другім прамысловым аб'екце горада, які ён наведаў у час паездкі ў Магілёў, — заводзе штучнага валакна. Гэта прадпрыемства апынулася ў складанай эканамічнай сітуацыі — патрэбны фінансавыя сродкі для рэканструкцыі і абнаўлення абсталявання, укаранення новых тэхналогій. На заводзе ствараецца найноўшая вытворчасць па выпуску поліпрапіленавых плёнак, якія пойдуць на ўпакоўку харчовых прадуктаў, медыцынскіх прэпаратаў, вырабаў лёгкай прамысловасці. Аднак з-за нехваткі фінансаў пуск такой неабходнай для нашай рэспублікі вытворчасці зацягнуўся амаль на два гады. Гэта праблема і стала асноўнай прычынай наведвання Прэзідэнтам названага прадпрыемства. Тэрмін пуску новай вытворчасці назначаны на сярэдзіну наступнага года.

Апладысментамі сустракалі кіраўніка дзяржавы студэнты і выкладчыкі Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. У час цяперашняй паездкі Аляксандр Лукашэнка ўпершыню пабываў у сваёй альма-матэр у якасці Прэзідэнта. Як вядома, ён выпускнік гістарычнага факультэта гэтай ВНУ. Прэзідэнт вельмі цікавіўся тым, як жывуць і вучацца цяперашнія студэнты. І аказалася, што ў самай вялікай пашане ў іх тыя ж выкладчыкі, якіх любіць і памятае кіраўнік дзяржавы. Ён пабываў у аўдыторыях і вучэбных класах, дзе сам калісьці займаўся, на кафедры гісторыі, сустрэўся з цяперашнім кіраўніцтвам педінстытута.

Ну а самая вялікая сустрэча з магілёўчанамі адбылася на цэнтральнай плошчы горада. У сваім выступленні Прэзідэнт спыніўся на цяперашняй палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Гэта сустрэча, на якой прысутнічалі дзесяткі тысяч жыхароў горада, завяршыла праграму паездкі кіраўніка дзяржавы на Магілёўшчыну.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

# САВІЦКАЯ Ядвіга Міхайлаўна

Не стала легендарнай журналісткі Ядвігі Міхайлаўны Савіцкай. Гэта горкая вестка прыйшла з Краснадара, дзе Ядвіга Міхайлаўна апошні час жыла ў дачкі.



Ядвіга Міхайлаўна нарадзілася 3 верасня 1908 г. у Мінску. Скончыўшы Камуністычны інстытут журналістыкі працавала ў газетах «Звязда», «Штандар вольносці» («Сцяг свабоды»). Пасля акупацыі фашыстамі Беларусі Ядвіга Міхайлаўна вядзе актыўную барацьбу з захопнікамі ў саставе Мінскага падполля. Яна ўзначальвае партыйна-камсамольскую групу, а ў 1942 годзе рэдагуе падпольную газету «Звязда». Няўрымслівага журналіста, мужнага патрыёта добра ведалі і паважалі партызаны брыгады імя Варашылава Мінскай вобласці, а таксама партызанскага злучэння Слуцкай зоны. Ядвіга Міхайлаўна Савіцкая ўзнагароджана ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны II ступені, многімі медалямі.

У пасляваенны час Ядвіга Міхайлаўна шмат гадоў аддала партыйнай і журналісцкай рабоце. Добрая памяць аб ёй назаўсёды захаваецца ў сэрцах тых, хто ведаў Ядвігу Міхайлаўну, працаваў з ёй, вучыўся ў яе.

**Калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**
**Савет ветэранаў партызанскага руху і падполля Мінскай вобласці.**

# ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ЗВАРОЦЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць Зварот Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

2. Даручыць Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шарэцкаму С. Г., кіраўнікам фракцый у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь правесці прэс-канферэнцыю і давесці змест Звароту да грамадзян Рэспублікі Беларусь.

3. Апублікаваць Зварот Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у газетах «Звязда», «Народнай газеце» і іншых сродках масавай інфармацыі.

4. Даручыць членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах Краўчанку П. К. праінфармаваць прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса ў Рэспубліцы Беларусь аб сітуацыі, што стварылася ў дзяржаве.

5. Прапанаваць прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь Чыгіру М. Н. правесці 18 лістапада 1996 года ў 10 гадзін сумеснае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Калегіі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь для абмеркавання сітуацыі, што складваецца ў рэспубліцы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**
15 лістапада 1996 г., г. Мінск., № 793-XIII

# ЗВАРОТ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Сёння ў Рэспубліцы Беларусь пад выглядам правядзення рэферэндуму ідзе захоп улады і ўстанаўліваецца адкрытая дыктатура. Указы Прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі аб прызнанні нядзеючымі рашэнняў Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, аб вызваленні ад пасады старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі В. І. Ганчара не толькі антыканстытуцыйныя, але і супярэчаць цвярозаму сэнсу.

Становіцца ўсё больш відавочна, што А. Р. Лукашэнка ўступіў на шлях антыканстытуцыйных рашэнняў, не спыняецца ні перад чым. Адно парушэнне закона параджае другое.

Для забеспячэння любым шляхам патрэбнага выніку пастаўлена задача ў парушэнне закона галасаванне па рэферэндуму ў асноўным завяршыць да 23 лістапада, а давыбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета сарваць. Бюлетэні для галасавання выраблены і накіраваны на выбарчыя ўчасткі Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта, мінуючы Цэнтральную выбарчую камісію. Колькасць гэтых бюлетэняў нікому невядома. Грубейшыя парушэнні дапускаюцца ў ходзе фінансавання рэферэндуму. Дагэтуль блакіруецца легальнае выдзяленне сродкаў Цэнтральнай выбарчай камісіі на гэтыя мэты. У той жа час для правядзення рэферэндуму ствараюцца паралельныя структуры.

У цэнтры Еўропы ажыццяўляецца страшэнны эксперымент масіраванага ўздзеяння на свядомасць і падсвядомасць людзей манапалізаванымі А. Р. Лукашэнкам сродкамі масавай інфармацыі. Грамадзяне рэспублікі пазбаўлены магчымасці зрабіць асэнсаваны і аб'ектыўны выбар. Па сутнасці рэферэндум ператвараецца ў фарс.

Паважаныя суайчыннікі!

Мы звяртаемся да вас з просьбай зрабіць усё магчымае, каб не дапусціць устанаўлення дыктатуры на Беларусі, не дапусціць масавых распраў і рэпрэсій над людзьмі, якія думаюць інакш, чым А. Р. Лукашэнка і яго акружэнне!

Паважаныя члены Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь!

Паважаныя кіраўнікі абласцей і раёнаў!

Мы звяртаемся да кожнага з вас з просьбай праявіць грамадзянскую мужнасць і не стаць памагатымі ўмацавання дыктатарскага рэжыму!

Мы звяртаемся з заклікам да кіраўнікоў пракуратуры, Вярхоўнага суда, МУС, КДБ і Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь не даць уцягнуць сябе ў авантуру, у незаконныя дзеянні, накіраваныя супраць інтарэсаў народа і на ўдушэнне дэмакратыі!

Мы заклікаем кіраўніка Садружнасці Незалежных Дзяржаў Барыса Мікалаевіча Ельцына, кіраўнікоў дзяржаў, урадаў і парламентаў Садружнасці зрабіць усё, каб мір і спакой захаваліся на шматпакутнай зямлі Беларусі.

Мы звяртаемся з заклікам да кіраўнікоў дружалюбных краін у самы бліжэйшы час сабраць экстранную нараду кіраўнікоў дзяржаў, урадаў і парламентаў Садружнасці для разгляду сітуацыі ў Беларусі.

Мы зяртаемся да сусветнага супольніцтва, кіраўнікоў дзяржаў, кіраўнікоў парламентаў аказаць палітычную і маральную падтрымку парламенту і народу, які перажыў за апошняе стагоддзе мноства трагедый, страціў у сусветных войнах мільёны сваіх сыноў і дачок. Мы маем права разлічваць на тое, што ў Беларусі, у цэнтры Еўропы не ўзнікне дыктатарскі рэжым, накіраваны на ліквідацыю інстытута парламентарызму і дэмакратыі.

Мы выказваем упэўненасць, што гэты Зварот знойдзе водгук у сэрцах і розумах беларускага народа, а таксама людзей добрай волі Еўрапейскага кантынента і нашай планеты!

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
15 лістапада 1996 года.

# ПОГЛЯД ДЭПУТАТАЎ

Учора ў другой палове дня ў зале пасяджэнняў сесіі Вярхоўнага Савета адбылася прэс-канферэнцыя, на якой прысутнічалі не толькі прадстаўнікі шматлікіх сродкаў масавай інфармацыі, якія сочаць за развіццём нечакана ўспыхнуўшага канфлікту, але і дэпутаты і супрацоўнікі Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. На сустрэчы Сямён Шарэцкі ў кароткай прамове, каменціруючы надзвычайнае здарэнне ў Цэнтрвыбаркоме, па-ранейшаму ахарактарызаваў яго як неканстытуцыйны захоп улады і пачатак усталявання дыктатуры. А лідэр беларускіх камуністаў Сяргей Калякін быў яшчэ больш катэгарычным, падкрэсліўшы, што ў дзеяннях групы людзей ёсць састаў дзяржаўнага злачынства. На думку Калякіна, парламент павінен афіцыяльна распачаць працэдуру імпічменту Прэзідэнту за дапушчанае грубае парушэнне Канстытуцыі.

Адначасова прэсу цікавіла пытанне, як будзе дзейнічаць Вярхоўны Савет, калі ўслед за адхіленнем ад пасады Ганчара Аляксандр Лукашэнка паспрабуе распусціць парламент і Канстытуцыйны суд? Аднак сур'ёзна адказаць на яго ўдзельнікі прэс-канферэнцыі не змаглі. Хаця гэта зусім не азначае, што яны не дапускаюць такога развіцця падзей. Дэпутат Анатоль Лябедзька прапанаваў калегам не пакідаць у гэтыя дні будынак Вярхоўнага Савета і перагледзець рашэнне Прэзідыума аб скліканні нечарговага пасяджэння сесіі 18 лістапада, прызначыўшы яго раней.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*(Чытайце 6-ю стар.)*

# ПРЭЗІДЭНТ ПАДПІСАЎ УКАЗЫ АБ ПРЫСВАЕННІ ГАНАРОВЫХ ЗВАННЯЎ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка падпісаў 14 лістапада шэраг указаў аб прысваенні ганаровых званняў. За вялікі ўклад у развіццё харчовай прамысловасці, шматгадовую плённую працу ганаровае званне «Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь» прысвоена дырэктару Мінскага завода шампанскіх він Тадэвушу Булдыку.

За значны ўклад у развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці, шматгадовую плённую працу ганаровае званне «Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь» прысвоена дырэктару саўгаса «Мухавец» Брэсцкага раёна Якаву Бухавецкаму і старшыні калгаса «Зара» Магілёўскага раёна Леаніду Маісееву.

За значны асабісты ўклад у развіццё сістэм газазабеспячэння рэспублікі, шматгадовую плённую працу ў будаўніцтве генеральнаму дырэктару рэспубліканскага арэнднага прадпрыемства «Белспецмантаж» Сямёну Міхалёнку прысвоена ганаровае званне «Заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь».

**БЕЛТА.**

# НАВУКА ЗАЎСЁДЫ Ў ПОШУКУ

Тыдзень таму, як вядома, Беларускі дзяржаўны універсітэт адзначыў сваё 75-годдзе. У сталіцы прайшлі вялікія ўрачыстасці з гэтай нагоды. Удзел у святкаваннях узялі кіраўнікі дзяржавы, прафесарска-выкладчыцкі састаў, студэнты, былыя выпускнікі ВНУ, шматлікія госці. Не абышлося, натуральна ж, і без высокіх дзяржаўных узнагарод, памятных падарункаў, сувеніраў, сюрпрызаў...

Добрыя падарункі — універсітэту, сабе, усёй беларускай навуцы — зрабілі навукоўцы БДУ. Падрыхтаваны і акурат да юбілею выдадзены чатыры нумары навукова-тэарэтычнага часопіса «Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта» — свайго роду летапіс спраў і здзяйсненняў усіх пакаленняў прафесараў, дацэнтаў, дактароў і кандыдатаў навук, якія пакінулі свае адметныя сляды ў гісторыі ўстановы.

Адзін пералік прозвішчаў аўтараў «Весніка» сведчыць: універсітэцкая навука займае ў нашай дзяржаве вядучыя пазіцыі. У фізіцы і матэматыцы, хіміі, біялогіі і геаграфіі сёння плённа шчыруюць акадэмікі АН Рэспублікі Беларусь А. Богуш, В. Свірыдаў, Ф. Капуцкі, дактары навук А. Гусак, Р. Тышкевіч, М. Юрчук, Г. Браніцкі, А. Кулак, А. Лесніковіч, Я. Рахманько, С. Лешчаў, Г. Каба, Я. Пятраеў, І. Лапацін, У. Юрын, В. Якушка, Л. Казлоўская, П. Кухарчык, У. Барышэўскі...

Імёны ж універсітэцкіх гісторыкаў, філосафаў, палітолагаў, эканамістаў, прававедаў, філолагаў А. Зелянкова, П. Брыгадзіна, В. Гадунова, У. Коршука, П. Шупляка, У. Кошалева, В. Фядосіка, Я. Яскевіч, Л. Давыдзенкі, Я. Юхо, А. Лойкі, Б. Плотнікава, П. Ткачова, В. Рагойшы, П. Шубы, А. Супруна, І. Шаблоўскай і многіх іншых таксама добра вядомы шырокай грамадскасці нашай маладой суверэннай дзяржавы.

Юбілей мінаваў, а наперадзе — новыя справы, праблемы, набыткі і здзяйсненні. Вучоныя флагмана айчыннай адукацыі зноў у пошуку. Значыць, будуць і новыя грунтоўныя навукова-тэарэтычныя працы.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

# БЕЛАРУСЬ МАЕ НАМЕР ПАШЫРАЦЬ СУПРАЦОЎНІЦТВА З БУЙНЕЙШЫМІ ДЗЯРЖАВАМІ СВЕТУ

Пакет беларуска-індыйскіх пагадненняў будзе падпісаны ў ходзе намечанага на 10—14 снежня афіцыяльнага візіту ў Індыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Аб гэтым паведаміў журналістам першы намеснік міністра замежных спраў нашай рэспублікі Валерый Цапкала на брыфінгу, што быў праведзены 14 лістапада ў знешнепалітычным ведамстве. Згодна з папярэдняй дамоўленасцю, у Дэлі плануецца падпісаць міжурадавае пагадненне аб эканамічным і тэхнічным супрацоўніцтве, пагадненне аб стварэнні міжурадавай камісіі па эканамічнаму, гандлёваму, прамысловаму, навукова-тэхнічнаму і іншых відах супрацоўніцтва. Акрамя таго, будуць падпісаны два пагадненні, якія рэгулююць беларуска-індыйскія адносіны непасрэдна ў эканамічнай галіне: аб заахвочванні і ўзаемнай абароне інвестыцый і аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання.

Сталі вядомы і канкрэтныя тэрміны афіцыяльнага візіту ў Кітай прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра. Ён адбудзецца з 4 па 8 снежня.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

# В. КАПІТАН АБВЯРГАЕ СЛОВЫ А. ЛУКАШЭНКІ

15 лістапада на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Васіль Капітан абверг заявы А. Лукашэнкі, зробленыя ім напярэдадні па Беларускім тэлебачанні. Прэзідэнт заяўляў, што яго барацьбе з карупцыяй перашкаджае пракуратура, на якую ціснуць дэпутаты ВС. В. Капітан афіцыяльна заявіў, што ўсе матэрыялы, якія паступалі ў пракуратуру з Адміністрацыі Прэзідэнта, яго Службы кантролю, разглядаліся і па іх прымаліся законныя рашэнні. Ніякага ціску на пракуратуру з боку дэпутатаў не было. Гэта пытанне было спецыяльна даследавана ў Генпракуратуры і абласнымі пракурорамі, заявіў В. Капітан.

Ён абверг таксама словы Прэзідэнта аб тым, што В. Капітан прасіў у А. Лукашэнкі абароны ад ВС «са слязьмі на вачах». Слёз не было, не было і сустрэчы з Прэзідэнтам, была толькі размова з кіраўніком яго адміністрацыі М. Мясніковічам.

-- Падыход у мяне адзін -- выкананне законаў, -- заявіў В. Капітан і зазначыў, што асабіста ён не трымаецца за крэсла.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 464

## АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ АСНОЎНЫХ НАПРАМКАЎ САЦЫЯЛЬНА- ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА 1996—2000 ГАДЫ

У мэтах павышэння жыццёвага ўзроўню беларускага народа на аснове стабілізацыі эканомікі і забеспячэння эканамічнага росту галін народнай гаспадаркі рэспублікі **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады, адобраныя Усебеларускім народным сходам, які адбыўся 19-20 кастрычніка 1996 г.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць мерапрыемствы па рэалізацыі Асноўных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады;

сумесна з аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам забяспечыць безумоўнае выкананне задач, прадугледжаных указанымі Асноўнымі напрамкамі.

3. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

4. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
14 лістапада 1996 г., г. Мінск.

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У Лондане выйшаў у свет чарговы штогадовы зборнік таямнічых і звышнатуральных з'яў. У хроніцы людзей узгадваюцца і сустрэчы са страшыламі тыпу вялікага, з адным вокам кажана, які ўрываецца ў дамы занзібарцаў і гвалтуе іх жанчын, і новазеландскія авечкі, якія разгойдваюцца на галінах дрэў. Апошні факт, як кажуць, мае поўнае разумнае тлумачэнне: па прызнанню пілота, авечкі выпалі з верталёта пры транспарціроўцы. Цяперашняе выданне штогадовіка мае і практычнае значэнне: на вокладцы публікуюцца парады жанчынам, якія апасаюцца зацяжараць ад іншапланецяніна.

**Рэйтэр.**

*Ці падабаецца вам, калі з праязджаючых аўтамабіляў выкідваюць якое-небудзь смецце? Праваахоўным органам Вялікабрытаніі гэта перастала падабацца. Цяпер штраф у 17.000 фунтаў стэрлінгаў і пагроза крымінальнага праследавання вісіць над кожным, хто выкіне на праезную частку што-небудзь. Гэта адказ на тое, што ў краіне пачасціліся выпадкі, калі з вокнаў машын выкідваюць старыя сумкі, прадметы адзення, хлеб і нават... цагліны. За адзін толькі тыдзень было адзначана пяць выпадкаў цяжкіх раненняў людзей такімі выкінутымі прадметамі.*

**ІТАР-ТАСС**

Праз 37 гадоў знайшоўся гадзіннік ветэрана вайны з Турынска Андрэя Цімафеевіча Зоркіна.

Нечакана для ўсіх яго знайшла ў двары ўнучка ветэрана Алена. Дзяўчынка залезла на дрэва і ўбачыла, што на адной з галін нешта вісіць. Дзед потым прыгадаў, што яму прыходзілася абсякаць на гэтым дрэве сукі. Гадзіннік, вядома, вельмі моцна пацярпеў за гэтыя гады, але ветэран спадзяецца яго адрамантаваць.

**ЕАН.**

# ХТО НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ НА ПЛЯЦЕНЬ,

## ці Яшчэ раз аб «сціплых» пенсіённых прывілеях дэпутатам

У сваім дакладзе на Усебеларускім народным сходзе Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка папракнуў дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў іх прэтэнзіях на ўстанаўленне заработнай платы не ніжэй чым у міністра і ў празмерных пенсіённых прывілеях.

I што ж дэпутаты? Замест таго, каб сарамліва прамаўчаць, яны, у тым ліку Старшыня Вярхоўнага Савета С. Г. Шарэцкі, на прэс-канферэнцыях, у інтэрв'ю і на сустрэчах з выбаршчыкамі абвінавачваюць Прэзідэнта ў дэзінфармацыі наконт пенсіённых ільгот. Паспрабуем разабрацца, хто ж на самай справе наводзіць цень на пляцень?

Адразу ж павінен адзначыць, што, мяркуючы па ўсім, дэпутаты Вярхоўнага Савета цяперашняга, трынаццатага склікання, да гэтага часу не разабраліся ў сутнасці і нюансах артыкула 114 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», які прадугледжвае пенсіённыя прывілеі дэпутатам. Затое выдатна разбіраюцца ў гэтым былыя дэпутаты папярэдняга, дванаццатага, склікання, якія пастараліся напярэдадні заканчэння сваіх паўнамоцтваў устанавіць іх для сябе і будучых дэпутатаў. Прымаючы закон, яны забыліся толькі аб адным: не вызначылі крыніцу фінансавання дэпутацкіх пенсій. Па гэтай прычыне аддзелы сацыяльнай абароны такія пенсіі пакуль не назначаюць. Аднак з гэтым ніяк не могуць змірыцца і прызнаць уласны промах некаторыя амбіцыйныя былыя дэпутаты, патрабуючы свае «кроўныя» і ўцягваючы аддзелы сацыяльнай абароны ў судовыя валакіты.

Аб якіх канкрэтных прывілеях ідзе размова? Не буду прыводзіць тут тэкст артыкула 114 памянёнага закона, тым больш, што гэты артыкул вельмі груваскі і змяшчае шэраг прававых і сэнсавых хібаў, якія ўскладняюць яго ўспрыманне нават спецыялістамі. Абмяжуюся каментарыямі. Такім чынам, калі сёння назначыць пенсію былому дэпутату, то, у залежнасці ад пасады, якую ён займаў у парламенце, памер яе будзе складаць ад 2 млн. 100 тыс. да 3 млн. 200 тыс. рублёў (пры павелічэнні заработнай платы дэпутатам адпаведна павышаецца і пенсія былым дэпутатам. Па агульнаму правілу права на такую пенсію былы дэпутат мае пры наяўнасці 35-гадовага (для жанчын — 30-гадовага) працоўнага стажу. Няцяжка вызначыць, што такое права ўзнікае на 8—10 гадоў раней агульнаўстаноўленага пенсіённага ўзросту, як, напрыклад, у шахцёраў ці ў іншых работнікаў з асабліва шкоднымі і вельмі цяжкімі ўмовамі працы (пенсія ў такіх работнікаў сёння, як вядома, складае не больш як 612 тыс. руб.).

А цяпер аб «нюансах». Звышвысокую па цяперашніх мерках дэпутацкую пенсію закон дазваляе атрымаць і ў 40-гадовым, і ў 35-гадовым узросце, калі, скажам, былы дэпутат мае права на пенсію на іншай падставе, напрыклад, за выслугу гадоў, як ваеннаслужачы ці служачы дзяржаўнага апарату, або ў сувязі з інваліднасцю (незалежна ад яе прычыны і групы). Неабходна адзначыць, што прэтэндэнты на дэпутацкую пенсію на такіх падставах у ліку былых і цяперашніх дэпутатаў ёсць і будуць.

Яшчэ адна істотная дэталь. Такую «сціплую» пенсію, якая ў два разы перавышае генеральскую, былому дэпутату ва ўзросце, вельмі далёкім да пенсіённага, закон прадпісвае плаціць незалежна ад таго, ці працуе ён і якую пасаду займае. Яе трэба будзе выплачваць і банкіру, і міністру, і працвітаючаму бізнесмену. Сярод былых дэпутатаў такіх нямала. I, што асабліва здзіўляе, пенсіённыя даброты належаць былому дэпутату нават у тым выпадку, калі ён прабыў у дэпутацкім крэсле ўсяго трычатыры месяцы.

Думаю, што марныя намаганні паважанага старшыні Канстытуцыйнага суда В. Г. Ціхіні, які заклікае паважаць закон, што змяшчае такія цяжкавытлумачальныя прывілеі. Опусы, выдуманыя былымі дэпутатамі «пад сябе» і ўключаныя ў артыкулы 114, 115 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», ніяк не ўпрыгожваюць гэты закон. Яны супярэчаць не толькі іншым законам, але і духу самой Канстытуцыі. Дарэчы, у Канстытуцыйнага суда была магчымасць сказаць на гэты конт важкае слова, калі па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 14 снежня 1995 г. ім разглядалася пытанне аб адпаведнасці гэтага закона Канстытуцыі. Аднак Канстытуцыйны суд, упамянуўшы шэраг артыкулаў, уключаючы і артыкул 114, адзначыў у сваім вердыкце толькі няўзгодненасць асобных нормаў адпаведных артыкулаў з Кодэксам законаў аб працы, законамі «Аб асновах службы ў дзяржаўным апарацэ», «Аб пенсіённым забеспячэнні» і іншымі актамі ў частцы ўстанаўлення для дэпутатаў некаторых ільгот і пераваг. Ён прапанаваў Вярхоўнаму Савету перагледзець асобныя нормы закона (незразумела, праўда, якія) «на прадмет удакладнення іх рэдакцый, узгаднення з адпаведнымі палажэннямі іншых законаў, якія рэгулююць падобныя грамадскія адносіны». Чым не ўзор казуістыкі? Затое зайздросную рашучасць праявіў Канстытуцыйны суд, калі, узбудзіўшы справу па ўласнай ініцыятыве, «расправіўся» з артыкулам 88 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні» і артыкулам 56 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў», якія прадугледжвалі прыпыненне выплаты назначанай пенсіі ў выпадку пазбаўлення пенсіянера волі за ўчыненае злачынства. Указаныя артыкулы, нягледзячы на аргументаваныя довады апанентаў, былі прызнаны не адпаведнымі Канстытуцыі. Такім чынам, па волі Канстытуцыйнага суда трэба выплачваць пенсію ў перыяд знаходжання пенсіянера ў месцах пазбаўлення волі. I гэта пры тым, што дзяржава вымушана затрачваць за кошт падаткаплацельшчыкаў на ўтрыманне зняволенага сродкі, якія відавочна большыя, чым памер пенсіі.

Так і напрошваецца меркаванне: а ці не таму Канстытуцыйны суд туманнымі фармулёўкамі свайго заключэння праявіў лаяльнасць да заган прававых нормаў, якія датычаць дэпутацкіх пенсіённых прывілей, што ў тым жа 1995 годзе Вярхоўны Савет падтрымаў прапанову Канстытуцыйнага суда аб устанаўленні для суддзяў гэтага суда не менш шчодрых матэрыяльных прывілей пры выхадзе іх у адстаўку? Для іх, праўда, прадугледжана не пенсія, а неабкладаемае падаткам «штомесячнае пажыццёвае ўтрыманне ў памеры 75 працэнтаў службовага акладу суддзі Канстытуцыйнага суда на момант выплаты з улікам індывідуальных надбавак і даплат, якія меў гэты суддзя». I, што самае галоўнае, атрымаць яго, добраахвотна пайшоўшы ў адстаўку, пры адпаведных умовах можна ўжо ў 37—42-гадовым узросце і, зноў-такі, незалежна ад часу знаходжання на пасадзе суддзі. Натуральна, што «штомесячнае пажыццёвае ўтрыманне» належыць у дадатак да заробку, які можа мець суддзя, які выйшаў у адстаўку (законам яму гарантуецца работа, якой ён займаўся да выбрання суддзёй).

Такім чынам, Вярхоўны Савет, разглядаючы на сваім пасяджэнні 29 мая 1996 г. прапанову Канстытуцыйнага суда па арт. 114 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», якое ні да чаго канкрэтнага не абавязвае, не адважыўся ўнесці якія-небудзь змяненні. Не хапіла духу ў дэпутатаў, якія зусім нядаўна абяцалі выбаршчыкам змагацца з незаслужанымі прывілеямі, адмовіцца ад сваіх такіх заманлівых пенсіённых даброт. Перад галасаваннем адзін з дэпутатаў, які, дарэчы, з'яўляўся дэпутатам і дванаццатага склікання, пераконваў сваіх калег: «Навошта супраць сябе? Гэты папулізм, каму ён патрэбен?», маючы на ўвазе пад папулізмам адмову ад прывілей. Пры гэтым асабліва здзіўляе, што дэпутаты проста не абцяжарваюць сябе імкненнем хоць бы крыху ўнікнуць у прадмет абмеркавання. Так, дэпутат Новак В. А., які з'яўляецца сакратаром Камісіі па заканадаўству, выступаючы за дэпутацкія пенсіённыя прывілеі, без ценю сумнення заявіў, што члены ўрада, чый статус такі ж, як і члена парламента, маюць асобы парадак назначэння пенсій, у той час як «...нас Прэзідэнт і іншыя структуры прапануюць ураўнаваць са звычайнымі дзяржслужачымі». Калі б дэпутат Новак В. А. заглянуў у Закон «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» (артыкулы 29, 30), то змог бы, трэба думаць, разабрацца, што гэты закон не прадугледжвае пенсій, падобных да дэпутацкіх. Не ўдаючыся ў дэталі, праінфармую чытачоў, што артыкул 29 названага закона прадугледжвае магчымасць прызначэння члену Кабінета Міністраў у выпадку выхаду ў адстаўку пры пэўных умовах не пенсіі, а штомесячнай дапамогі ў памеры 70 працэнтаў поўнай пенсіі па ўзросту. Сёння такая дапамога можа складаць ад 318 да 400 тыс. руб., што менш, чым сярэдняя пенсія служачага дзяржаўнага апарату (522 тыс. руб.). Няцяжка палічыць, у колькі разоў гэта сума ніжэйшая за пенсію, на якую прэтэндуе радавы дэпутат, чые функцыі часцей за ўсё зводзяцца толькі да перыядычнага наведвання сесіі і націскання кнопкі. Але галоўнае нават не ў гэтым. Названы артыкул, па прычыне істотных прававых хібаў, проста не працуе. Аднак члены Кабінета Міністраў, якія пайшлі ў адстаўку, не судзяцца з раённымі аддзеламі сацыяльнай абароны, памятаючы, што не яны вінаваты ў загаловах спехам прынятых законаў.

Як я ўжо адзначаў, прымаючы Закон «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», дэпутаты папярэдняга, дванаццатага склікання, забыліся вызначыць крыніцу фінансавання дэпутацкіх пенсій. Гэту памылку спрабавалі выправіць цяперашнія дэпутаты пры абмеркаванні праекта закона «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год». Пры гэтым групай дэпутатаў была ўнесена прапанова аб фінансаванні пенсій былым дэпутатам з Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, у той час як такая прапанова груба супярэчыць Закону «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання». Дастаткова азнаёміцца з артыкуламі 1—4, 9—11 гэтага закона, каб нават неюрысту стала ясна, што фінансаваць дэпутацкія і падобныя ім пенсіі з Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва нельга. I толькі па той прычыне, што гэта прапанова не зусім стасавалася з разглядаемым у той момант пытаннем (абмяркоўвалася пытанне аб дзяржаўным бюджэце, а не аб бюджэце Фонду, які не ўваходзіць у састаў дзяржаўнага бюджэту), прапанова групы дэпутатаў не прайшла (не хапіла толькі шасці галасоў).

Нягледзячы на відавочнасць прававога тупіка, выйсце з якога павінен вызначыць сам Вярхоўны Савет, былыя дэпутаты Капытоў Н. Е., Смоляр І. Н., Чакушоў В. М. праз раённы суд Маскоўскага раёна горада Мінска ўпарта дабіваюцца «свайго», з надзеяй на тое, што суд не разбярэцца ў супярэчлівым заканадаўстве і задаволіць іх прэтэнзіі на «сціплыя» дэпутацкія пенсіі. Спачатку так і адбылося. Пры першапачатковым разглядзе 9 верасня г. г. раённы суд задаволіў іх патрабаванні, узяўшы на сябе функцыю заканадаўчага органа па вызначэнню крыніцы фінансавання, і, насуперак патрабаванням заканадаўства аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні, абавязаў раённы аддзел сацыяльнай абароны назначыць ім пенсіі. Натуральна, што Мінскі гарадскі суд адмяніў рашэнне раённага суда. Аднак судовая цяганіна на гэтым не скончылася. Звярнуліся з іскамі ў суды і іншыя былыя дэпутаты...

Многа сёння праблем у аддзелаў сацыяльнай абароны. Шкада, што пры гэтым прыходзіцца траціць час і намаганні на абарону Закона і далёка не багатага бюджэту Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва ад дамаганняў былых заканадаўцаў. Большасць жа цяперашніх дэпутатаў, мяркуючы па ўсім, замест таго, каб выправіць і прывесці да здаровага сэнсу дэфектныя законы (хіба не абсурд прадугледжваць каму б там ні было права на пенсію на 15—20 гадоў раней за пенсіённы ўзрост, які ўстаноўлены для простага працаўніка), лічаць за лепшае займацца палітычнымі гульнямі і ўвядзеннем у зман сваіх выбаршчыкаў.

**Г. БЯСПАЛАЎ,**
**першы намеснік міністра сацыяльнай абароны.**

*ПЕРАДВЫБАРНЫ МАРАФОН*

# ПАМІРАЦЬ ЗБІРАЙСЯ, А ЖЫТА СЕЙ

**Менавіта такой прымаўкай кіруецца абсалютная большасць кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі, лёс якіх павінен вырашыцца на дадатковых паўторных выбарах 24 лістапада. Выканаўчая ўлада ў асноўным дзейнічае ўжо з разлікам на новую Канстытуцыю, паводле якой Вярхоўны Савет чакае рэарганізацыя, а пэўная колькасць ужо нават выбраных дэпутатаў акажуцца непатрэбнымі. Таму передвыбарная кампанія праходзіць у глыбокай і зацяжной інфармацыйнай блакадзе.**

Але Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў засталася аддана літары Закона і ў межах сваіх магчымасцей забяспечыла падрыхтоўку да выбараў, у выніку чаго ніводная акруга, выбаршчыкі якой не маюць свайго прадстаўніка ў заканадаўчым органе краіны, не засталася без увагі прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты. Іх усяго зарэгістравана 257.

Нават павярхоўны аналіз спісаў з прозвішчамі дае магчымасць зрабіць некаторыя высновы. Па-першае, значная колькасць кандыдатаў вылучаецца ўжо ў трэці раз, прычым, як правіла, па тых жа самых акругах. Такую настойлівасць лёгка зразумець, калі прааналізаваць вынікі іх ранейшай барацьбы. Звычайна гэта людзі, якія набралі найбольшую колькасць галасоў, але з-за нізкай актыўнасці выбаршчыкаў у Вярхоўны Савет не трапілі. Калі ўлічыць, што зараз правілы «гульні» моцна зменены (зніжана планка яўкі выбаршчыкаў на ўчасткі ў абодвух турах да 25 працэнтаў), то можна канстатаваць, што якраз «ветэраны» маюць найбольшыя шанцы на поспех. Па-другое, адразу ж кідаецца ў вочы, што найбольшую актыўнасць праявілі палітычныя партыі. Толькі каля 8 працэнтаў прэтэндэнтаў з'яўляюцца беспартыйнымі. Да таго ж не ўсе партыі палічылі неабходным пазмагацца за тое, каб мець у парламенце сваіх прадстаўнікоў. Пра гэта ўспомнілі толькі палова палітычных арганізацый, якія на сённяшні дзень зарэгістраваны ў краіне. А сярод тых, хто вылучыў найбольшую колькасць кандыдатаў, з заўважным адрывам лідзіруюць тры партыі: Ліберальна-дэмакратычная, Беларускі народны фронт і Партыя камуністаў беларуская. Вось якія думкі адносна передвыбарнай кампаніі маюць лідэры гэтых арганізацый.

**Сяргей ГАЙДУКЕВІЧ, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі:**

— Ліберальна-дэмакратычная партыя, у адрозненне ад папярэдніх выбараў, вылучыла найбольшую колькасць кандыдатаў. Гэта сведчанне таго, што структурызацыя арганізацыі дайшла да такога ўзроўню, які дазваляе нам вылучаць сваіх людзей літаральна ў любым раёне Беларусі.

*— Колькі фактычна вашых прыхільнікаў уключылася ў барацьбу?*

— Мы паспрабавалі «закрыць» усе акругі, але, наколькі мне вядома, афіцыяльна зарэгістраваны толькі 42 кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета. Прычыны, па якіх па-за гульнёй аказаліся каля дваццаці чалавек, розныя. Дзесьці не паспелі з афармленнем дакументаў, дзесьці не працавалі належным чынам камісіі, што не дазволіла своечасова аформіць рэгістрацыю. Паўплывала, вядома, і агульная атмасфера хаосу ў перадвыбарнай кампаніі. Мяркую, ахвярамі яго сталі прадстаўнікі не толькі нашай партыі.

*— Дарэчы, улічваючы такую складаную сітуацыю, вы маглі б даць нейкі прагноз адносна выбараў?*

— Лічу, што ў дваццаці пяці працэнтах вакантных акруг давыбары павінны даць плён. Я ведаю, што існуюць заявы, маўляў, другога тура выбараў не будзе. Але спадзяюся, што хоць нейкая элементарная законнасць у дзяржаве будзе, жывём жа мы па дзеючых Канстытуцыі і законах. Ва ўсякім разе, наша партыя не супакоіцца да таго часу, пакуль усе атрыбуты законнасці не будуць усталяваны.

*— За кошт чаго вашы кандыдаты сёння вядуць агітацыйную работу?*

— Замест таго, каб расклейваць улёткі, мы ходзім па кватэрах і тлумачым людзям сваю праграму і перавагі нашых кандыдатаў. Дзяржава прымусіла сваімі адносінамі рабіць гэта. Але можа гэта і лепш.

**Юры ХАДЫКА, намеснік старшыні Беларускага народнага фронту:**

— Як вядома, на пэўным этапе БНФ адмаўляўся браць удзел у дадатковых выбарах. Але пасля вераснёўскага Сойма даволі істотна памянялася палітычная сітуацыя. У краіне склаўся хоць і не вельмі маналітны, але адзіны апазіцыйны блок, які патрабуе бясспрэчнага выканання Канстытуцыі і выступае ў прынцыпе за адстаўку Лукашэнкі. У сувязі з гэтым выбары набываюць дадатковую актуальнасць, таму што Вярхоўны Савет пры ўмове ўзмацнення яго прадстаўнікамі 61 гарадской акругі, дзе пераважае дэмакратычны электарат, можа значна змяніцца. Я толькі гэтым тлумачу заклік Старшыні Вярхоўнага Савета на сустрэчы з кандыдатамі не складваць зброю, а змагацца, нягледзячы на тое, што кожны дзень з'яўляюцца новыя небяспечныя ўказы. Улічваючы гэтую сітуацыю, фронт прыняў рашэнне вылучыць кандыдатаў.

*— Колькі чалавек, дарэчы, было вылучана партыяй?*

— Першапачаткова было прапанавана 39, але, паводле апошніх даных, на нядаўнім Сойме шэсць кандыдатур было знята для таго, каб у некаторых акругах можна было стварыць максімальна спрыяльныя умовы для іншых дэмакратычна настроеных кандыдатаў, якія балаціруюцца не ад БНФ. Магчыма, і гэта не мяжа.

*— Нягледзячы на гэта, зараз нярэдка можна сутыкнуцца з сітуацыяй, калі ў адной акрузе вылучаюцца кандыдат ад БНФ і чалавек, які мае такія ж палітычныя перакананні і нават сімпатызуе фронту. Як разумець такое становішча?*

— Вядома, такія выпадкі ёсць. Але часта гэтаму ёсць тлумачэнне. Мы ўлічваем папярэдні вопыт і лічым небяспечным пакідаць у акрузе двух кандыдатаў, паколькі выбары наогул могуць быць сарваны. Успомніце, як некалі было з Зянонам Пазняком. У іншых выпадках гэта тлумачыцца адсутнасцю выпрацаванага шляху ці працэдуры ўзгаднення кандыдатур паміж партыямі блізкіх накірункаў. Таму не выключана, што да выбараў сітуацыя дзе-нідзе можа змяніцца. На двухбаковых, часта асабістых, перамовах працэс узгаднення працягваецца. Асабліва мы добра паладзілі з Аб'яднанай грамадзянскай партыяй.

*— Вы сказалі, што пакідаць дваіх чалавек у адной акрузе небяспечна. Але, мне здаецца, гэта палка з двума канцамі, бо, з іншага боку, як адзначаюць некаторыя аналітыкі, другога тура галасавання можа проста не быць.*

— Вы закранулі амаль што філасофскую праблему. Гэта тое ж самае, што развażаць будзе ў 2000 годзе канец свету ці не. Адны вераць у гэта і пасвойму рыхтуюцца, іншыя працягваюць займацца надзённымі справамі. У нашай сітуацыі ад Прэзідэнта можна чакаць усяго, але, тым не менш, і Вярхоўны Савет, і Цэнтральная камісія па выбарах праводзяць планавыя мерапрыемствы, у межах закона імкнуцца забяспечыць выбарчую кампанію. А гаварыць пра тое, што другі тур не адбудзецца — значыць пэўным чынам нават падыгрываць прэзідэнцкай палітыцы.

*— Ва ўмовах калі дзяржава не выдзеліла на выбары ніякіх сродкаў, кандыдаты пазбаўлены нават тых мізэрных 600 тысяч на агітацыю, якія мелі іх папярэднікі. Як вашы вылучэнцы рыхтуюцца да выбараў?*

— Правільна заўважылі. Тым не менш, у гэтай сітуацыі фронт не разгубіўся, паколькі мае развітыя пярвічныя арганізацыі. Адзіны сродак агітацыі, такім чынам, — сустрэчы з выбаршчыкамі. Няхай ён не надта эфектыўны, ігнараваць яго нельга.

**Сяргей КАЛЯКІН, першы сакратар ЦК Партыі камуністаў беларускай:**

— Уключыўшыся ў перадвыбарную кампанію, мы зыходзілі з таго, што выбары паводле закона адбудуцца, паколькі па-ранейшаму лічым, што ў нашай дзяржаве законы павінны дзейнічаць. Такім чынам, мы вылучылі 48 кандыдатаў у дэпутаты, хаця зарэгістраваных аказалася крыху менш. У прыватнасці, зараз спрабуем разабрацца з сітуацыяй у Магілёўскай вобласці: па невядомых прычынах там ніводзін наш прадстаўнік не зарэгістраваны. Частка патэнцыяльных пераможцаў у выбарах адмовілася выстаўляць свае кандыдатуры, асабліва ў Мінску. На людзей з боку прэзідэнцкай «вертыкалі» аказваўся ціск. Яны працуюць на дзяржаўных прадпрыемствах, і ім проста далі зразумець: альбо кандыдатам у дэпутаты, альбо займаемая пасада. Напрыклад, па 221-й акрузе ў Мінску адмовіўся балаціравацца Рыгор Пунцік, які поўнасцю мог разлічваць на поспех. Але перашкодзіла пасада дырэктара завода. Разам з тым мы не імкнуліся «закрыць» усе акругі, а вылучалі сваіх людзей толькі там, дзе іх высокія шанцы вызначыліся на папярэдніх этапах галасавання. Мы маем падставы разлічваць на дваццаць дэпутацкіх мандатаў пры ўмове, што выбары адбудуцца без фарс-мажорных абставінаў.

*— Якім чынам вашы кандыдаты заваёўваюць прыхільнасць выбаршчыкаў, даводзяць да іх свае пазіцыі?*

— Вы ведаеце, што Вярхоўны Савет аказаў садзейнічанне кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета незалежна ад іх палітычных прыхільнасцей надрукаваўшы па адной тысячы ўлётак для кожнага. Гэтага, вядома, мала, таму асноўным сродкам агітацыі застаецца пакватэрны абход. Схема, дарэчы, у нас ужо добра адпрацаваная.

(Заканчэнне на 7-й стар.)

# ДУМАЙ, НАРОД, ДУМАЙ!



## ЧАМУ АПАЗІЦЫЯ БАІЦЦА ЛУКАШЭНКІ І ЗА ШТО ЗАХАД ЁЙ АПЛАДЗІРУЕ

**24 лістапада ў Беларусі адбудзецца рэферэндум па праекту новай Канстытуцыі. Выбаршчыку трэба будзе вырашыць вельмі вострую спрэчку паміж выканаўчай уладай і апазіцыяй. Аднак па сутнасці вырашаецца пытанне, з кім Беларусь увойдзе ў якасці бліжэйшага саюзніка і партнёра ў XXI стагоддзе — з Расіяй ці з Захадам, куды рэспубліку з усіх сіл цягне апазіцыя.**

### РУБІКОН ПЯРОЙДЗЕНЫ

Драматычнае закручванне палітычнай інтрыгі ў Беларусі, калі на працягу некалькіх месяцаў заканадаўчая і выканаўчая галіны ўлады ішлі да лабавога сутыкнення, завяршылася. 9 лістапада быў дадзены старт рэферэндуму, галоўным пытаннем якога з'яўляюцца адносіны выбаршчыкаў да двух праектаў Канстытуцыі — прэзідэнцкага і парламенцкага.

У мінулую суботу бюлетэні для галасавання атрымалі тыя, хто не зможа быць на тэрыторыі рэспублікі 24 лістапада. Звычайная практыка, якой папярэднічалі падзеі сапраўды драматычныя.

Спачатку ў процівагу прэзідэнцкаму праекту Вярхоўны Савет унёс свой, альтэрнатыўны. Потым парламент засумняваўся не толькі ў прэзідэнцкім праекце, але і накіраваў запыт у Канстытуцыйны суд краіны з просьбай разгледзець правамернасць уласнага кроку. Вынесены вердыкт абвяшчаў, што рэферэндум па ўнясенню змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, прапанаваных як кіраўніком дзяржавы, так і Вярхоўным Саветам, можа мець выключна рэкамендацыйны характар. Вярхоўны Савет і Цэнтрвыбарком тут жа заявілі, што падпарадкоўваюцца рашэнню Канстытуцыйнага суда.

У адказ А. Лукашэнка 6 лістапада выдае Указ № 457 «Аб забеспячэнні канстытуцыйнага права грамадзян на ўдзел у рэферэндуме», якім дэзавуіруе рашэнні і Канстытуцыйнага суда, і Вярхоўнага Савета, і Цэнтрвыбаркома.

«Пытанні аб пераносе Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь і прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі выносяцца на абавязковы рэферэндум, рашэнні якога з'яўляюцца канчатковымі і маюць абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, — гаворыцца ва ўказе Аляксандра Лукашэнкі. — Пытанні аб куплі і продажы зямлі і аб адмене смяротнай кары выносяцца на кансультатыўны рэферэндум, рашэнні якога маюць рэкамендацыйны характар».

У адпаведнасці з указам спыняецца дзейнасць дзяржаўных органаў, якія перашкаджаюць правядзенню рэферэндуму, і адзначаецца, што Канстытуцыйны суд і Вярхоўны Савет краіны парушылі Канстытуцыю рэспублікі, паспрабаваўшы пазбавіць беларускіх грамадзян права на прыняцце змяненняў і дапаўненняў у Асноўны закон.

Указ № 457 тут жа падтрымалі міністр юстыцыі рэспублікі, старшыні Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў Беларусі, якія заявілі, што Канстытуцыйны суд узяўся не за сваю справу і тым самым перавысіў свае паўнамоцтвы.

І вось 9 лістапада Беларусь перайшла рубікон. Але яшчэ раней у палітычную сітуацыю ў Беларусі ўмяшалася замежжа.

### КАЖУЦЬ «БЕЛАРУСЬ», МАЮЦЬ НА ЎВАЗЕ...

Як паведаміў «Голас Амерыкі», у апошні тыдзень кастрычніка ЗША выдзелілі 100 мільёнаў долараў. Але не прама на падтрымку праціўнікаў Прэзідэнта Лукашэнкі, а на расшырэнне праграмы вяшчання на беларускай мове радыёстанцый «Свабода» і «Голас Амерыкі».

Сума немалая, калі ўлічыць, што ўвесь гадавы бюджэт радыёстанцыі «Свабода», якая фінансуецца кангрэсам ЗША, не складае і 30 мільёнаў долараў.

Ва ўмовах канфрантацыі паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі, якая даходзіць да апагею, гэта акцыя Вашынгтона азначае, што ЗША адкрыта занялі пазіцыю падтрымкі толькі аднаго боку, а менавіта — праціўнікаў Прэзідэнта.

Афіцыйныя СМІ ў Беларусі, як друкаваныя, так і электронныя, адлюстроўваюць у асноўным пункт гледжання выканаўчай улады. А падпольныя — апазіцыі, гэта значыць Вярхоўнага Савета, Беларускага народнага фронту, палітычных груп экстрэмісцкага і фашысцкага толку, якія нават свае лістоўкі маркіруюць знакам фашысцкай свастыкі.

А вось у эфіры над Беларуссю пануюць радыёстанцыі заходніх дзяржаў, якія забяспечылі масіраваную крытыку выканаўчай улады Беларусі і асабіста Прэзідэнта Лукашэнкі.

Знешне ўсё выглядае, вядома, прыстойна: апаненты выканаўчай улады Беларусі, і замежныя перш за ўсё, клапоцяцца аб лёсах дэмакратыі ў рэспубліцы і правах чалавека. Так дзяржаўны дэпартамент ЗША ў заяве ад 18 кастрычніка г. г., раскрытыкаваўшы прапанаваны Прэзідэнтам Беларусі праект Канстытуцыі, выказаў «вельмі глыбокую заклапочанасць» сітуацыяй у рэспубліцы і заклікаў Прэзідэнта Лукашэнку «неадкладна» пачаць кансультацыі з кіраўніцтвам парламента ў пошуках кампрамісу». У гэтых жа тонах быў вытрыманы і праслаўвуты дэмарш паслоў пяці заходнееўрапейскіх краін у Мінску 16 кастрычніка. Старшыня Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) Фішэр, якая выступіла ў Мінску ў гэты ж дзень, пайшла яшчэ далей за амерыканцаў. Яна заявіла, што эксперты ПАСЕ прааналізавалі тэксты праектаў Асноўнага закона Беларусі, прадстаўленыя Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам, і прыйшлі да высновы, што «парламенцкі праект лепшы».

Між тым у Беларусі дзейнічае Закон аб народным галасаванні (рэферэндуме), тэкст якога Прэзідэнт краіны амаль без змяненняў унёс у прапанаваны ім праект Асноўнага закона, дзе гаворыцца, што рэферэндум можа праводзіцца для вырашэння важнейшых пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця.

Захад, падтрымліваючы беларускую апазіцыю, быццам бы забыўся пра тое, што ў снежні 1993 года ў другой краіне СНД, у Расіі, народ прамым галасаваннем прыняў новую Канстытуцыю, а міжнароднае супольніцтва прызнала гэты акт і прыняло Расію ў Савет Еўропы.

На самай жа справе Захад непакояць не правы чалавека ў Беларусі, а зусім іншыя акалічнасці. Гэтыя прычыны адкрыта назваў 29 кастрычніка дырэктар аддзела па справах Украіны, Беларусі і Малдавіі дзяржаўнага дэпартамента ЗША Джэк Сігал: «Злучаныя Штаты неаднаразова выказвалі сваю нездаволенасць адносна палітыкі, якую праводзіць Прэзідэнт Лукашэнка», — сказаў ён. І растлумачыў: «Мы не можам дазволіць сабе ігнараваць падзеі ў Беларусі. Яе стратэгічнае размяшчэнне было крытычна важным на працягу стагоддзяў і застаецца такім і цяпер». Тут яшчэ не сказана слова «Расія», але ўжо ўгадваецца.

І сапраўды, геапалітычнае становішча Беларусі цалкам і поўнасцю вызначаецца тым, што яна прыкрывае эканамічныя і стратэгічныя рубяжы Расіі з Захаду. 70 працэнтаў тавараабароту Расіі з Еўропай ажыццяўляецца праз Беларусь. Былыя прыбалтыйскія рэспублікі пасля распаду СССР паспрабавалі разам з Турцыяй і Румыніяй стварыць нейкае балтыйска-чарнаморскае палітыка-эканамічнае новаўтварэнне, што фактычна паставіла б пад кантроль камунікацыі Расіі з Еўропай. Не выйшла. Таму што бервяном упоперак гэтай ідэі лягла Беларусь.

Карыстаючыся цяперашняй слабасцю Расіі, Захад спяшаецца ажыццявіць сваю ідэю-фікс — расшырыць на Усход НАТО. Вырываючы ў Масквы згоду на гэта расшырэнне, заходнія палітычныя дзеячы ідуць на любыя абяцанкі, галоўную з якіх гэтымі днямі каторы раз агучыў генеральны сакратар Паўночнаатлантычнага альянсу Хаўер Салана: НАТО не плануе ядзернага размяшчэння на тэрыторыі неафітаў. Але, па-першае, Чэхія і Польшча ўжо не адзін раз заяўлялі, што гатовы да размяшчэння натаўскай ядзернай зброі. А па-другое, у дырэктыве НАТО аб расшырэнні альянсу на Усход прама гаворыцца: «Палажэнні, названыя ў артыкуле 5 Вашынгтонскага дагавора, уключаючы ядзерны кампанент, будуць распаўсюджвацца на ўсіх новых членаў». Таму зусім не выклікае здзіўлення ўпэўненасць генерала Барыса Громава ў тым, што ракетна-ядзерная зброя НАТО будзе абавязкова размяшчацца на тэрыторыі новапрынятых у альянс краін.

І тут зноў узнікае фактар Беларусі, на тэрыторыі якой знаходзіцца першы эшалон проціракетнай абароны, а ўся сістэма ППА Беларусі заведзена на расійскую. Напрыклад, аб'ект, пабудаваны ў савецкі час у Вілейцы, уваходзіць у сістэму сувязі Ваенна-Марскога Флоту Расіі.

Гэтыя акалічнасці ні для кога не з'яўляюцца сакрэтам. Таму курс А. Лукашэнкі на збліжэнне з Расіяй прама супярэчыць ваенна-палітычным колам НАТО. У красавіку г. г. амерыканскія эксперты з трывогай пісалі аб тым, што Расія атрымлівае ўражальны плацдарм для размяшчэння сваіх войскаў у выпадку расшырэння НАТО, і таму погляд ЗША на гэта збліжэнне можа змяніцца (цытую) «у залежнасці ад таго, наколькі шчыльна Расія запоўніць Беларусь сваімі войскамі і ваеннымі базамі».

Гэтым колам, вядома, блізкая пазіцыя апазіцыі (прабачце за каламбур), якая не абцяжарвае сябе намёкамі і алегорыямі. Так, у адной з лістовак апазіцыі, распаўсюджанай у Мінску, напісана: «Беларусы не павінны дапусціць аб'яднання з імперскай Расіяй. Наш шлях не на Усход, а ў Еўропу, разам з брацкай Польшчай і Літвой... Беларусь для беларусаў, а не для маскалёў. Сваю зямлю мы будзем абараняць ад фашызму і лукашызму са зброяй у руках разам з братамі-ўкраінцамі. Мы павінны браць прыклад з вялікага чачэнскага народа, які абараняе сваю і нашу незалежнасць... Пазняк — наш беларускі Дудаеў! Няхай знікне праклятыя рускі народ, руская культура і руская мова!»

### ПРЭЗІДЭНТ РЫЗЫКУЕ

Апазіцыя прадстаўляе справу так, што галоўнае — гэта не дапусціць народ да рэферэндуму, бо калі людзі выйдуць на выбарчыя ўчасткі, то вынік рэферэндуму на карысць Прэзідэнта прадвызначаны. Так, у прыватнасці, заявіў гэтымі днямі ў Нью-Йорку палітычны эмігрант, памочнік З. Пазняка Сяргей Навумчык. Між тым, справа зусім не выглядае так адназначна.

Каб Прэзідэнту перамагчы, трэба выканаць дзве ўмовы. Па-першае, на рэферэндум павінны выйсці больш за палову зарэгістраваных выбаршчыкаў. І, па-другое, за прэзідэнцкі праект павінны аддаць галасы больш за палову ад спісачнага саставу выбаршчыкаў.

Між тым, паводле апошніх апытанняў грамадскай думкі, прэзідэнцкі праект Канстытуцыі падтрымліваюць ад 40 да 60 працэнтаў насельніцтва. Гэта, вядома, падтрымка не хісткая, але і не абсалютная. Улічваючы вайну ў эфіры, частка выбарчага корпуса можа і завагацца. Іншымі словамі, А. Лукашэнка рызыкуе якраз так, як рызыкаваў у красавіку і ў снежні 1993 года яго калега Барыс Ельцын.

Ці памыляецца ў сваіх дзеяннях Прэзідэнт Лукашэнка, як гэта пастаянна сцвярджаюць апазіцыя і афіцыйныя ўлады заходніх краін, якія інтэнсіўна падтрымліваюць яе ў барацьбе з выканаўчай уладай? Напэўна, так.

Канстытуцыйны суд рэспублікі прызнаў, што 16 указаў Прэзідэнта не адпавядаюць палажэнням Асноўнага закона. Нават калі Валерый Ціхіня меў рацыю толькі адзін раз (а я думаю, што не адзін), ужо можна гаварыць аб памылках кіраўніка дзяржавы.

Несумненна, аднак, і іншае. Аляксандру Лукашэнку цесна ў рамках скроенай дэмакратамі пад ідэалагічным націскам лідэраў БНФ і кіраўніцтвам тагачаснага Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча на скорую руку ў 1994 годзе Канстытуцыі краіны. Цесна, калі браць пад увагу мэты Шушкевіча і Лукашэнкі. Першы — «дэмакрат» першай хвалі, другі — дзяржаўнік.

Дзяржаўны дэпартамент ЗША і СЕ заклікалі Лукашэнку да кампрамісу з Вярхоўным Саветам... на базе парламенцкага праекта. Але які ж гэта кампраміс, калі гэты праект увогуле скасоўвае пасаду Прэзідэнта, а ўсе паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы прысвойвае Старшыня аднапалатнага Вярхоўнага Савета?!

Характэрна, што, калі канфлікт даходзіць да свайго апагея, выканаўчая ўлада кожны раз звяртаецца да голасу народа як да голасу Божага, і народ кожны раз, нават расколваючыся на часткі, падтрымлівае ў канчатковым выніку не «дэмакратыю» , а выканаўчую ўладу. Так было ўжо не раз за апошнія два гады ў Беларусі.

Апазіцыя ў Беларусі, пярэчачы супраць галасавання па прэзідэнцкаму праекту Асноўнага закона, ведае, чаго менавіта яна апасаецца — выказвання волі свайго народа. Вось калі б памяняць народ, тады б можна і на рэферэндум выйсці. А пакуль што апазіцыя лічыць за лепшае выходзіць на дэманстрацыі, бо, пакуль ты ідзеш у мітынгуючай шарэнзе, здаецца, што і ўвесь народ з табой.

Аляксандр Лукашэнка, між іншым, зусім не такі просты і прамалінейны, якім яго спрабуе паказаць апазіцыя.

У чэрвені 1994 года, калі ён прыняў удзел у прэзідэнцкіх выбарах, ён ішоў на іх з платформай: Белавежскім пагадненням — не! Неадкладны цесны саюз з Расіяй! А ўжо ў ліпені, паміж першым і другім турамі, ён раптам рэзка мяняе сваю пазіцыю і ні слова не ўпамінае аб Белавежскіх пагадненнях.

Мала хто ведаў тады, што ў ходзе першага тура галасавання ў Беларусі было праведзена апытанне грамадскай думкі, у выніку якога высветлілася, што больш за 58 працэнтаў насельніцтва краіны зусім не жадае вяртацца ў лона СССР і выступае за цесныя адносіны з Расіяй, але пры захаванні за Беларуссю незалежнасці. Лукашэнка ведаў аб гэтым і з таго часу ніколі ўжо больш не ставіў пад сумненне дасягнутую Беларуссю незалежнасць. Голас народа для яго заўсёды быў голасам Божым, і як палітык ён вельмі тонка адчувае, чаго хоча народ. І таму з ліпеня 1994 года ён у гэтым плане выкарыстоўвае толькі адну карту — цесныя саюзныя адносіны з Расіяй і вяртанне да чыста нацыянальных беларускіх каштоўнасцей.

У маі 1995 года ўсенароднае апытанне паказала, што 76 працэнтаў насельніцтва рэспублікі выказаліся за адмаўленне ад прынятых Вярхоўным Саветам сімвалаў, герба і сцяга Вялікага княства Літоўскага, а пазней Рэчы Паспалітай, і за вяртанне традыцыйнай беларускай дзяржаўнай сімволікі. А восенню таго ж года 85 працэнтаў насельніцтва краіны выказаліся за саюз з Расіяй, а не з Захадам.

Красавіцкія ж і майскія драматычныя дні Беларусі гэтага года, калі апазіцыя на чале з лідэрам БНФ Зянонам Пазняком паспрабавала сілай звергнуць у Мінску палітычны рэжым, паказалі, што Пазняка ў рэспубліцы падтрымліваюць толькі 6 працэнтаў насельніцтва, а Лукашэнку — 58.

24 лістапада стане ясна, ці правільна і на гэты раз Аляксандр Лукашэнка зразумеў свой народ.

**Уладзімір КУЗНЯЧЭЎСКІ.**

«Российская газета»
ад 13 лістапада 1996 г.

---

## ТРЭБА РАСТЛУМАЧЫЦЬ НАРОДУ ПРАЎДУ

Эканамічныя і палітычныя абставіны настолькі абвастрыліся, што мы павінны быць усе разам на баку абароны Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь. Выканаўчая ўлада, так званая «вертыкаль» Адміністрацыі Прэзідэнта, і асабіста Прэзідэнт сістэматычна парушаюць патрабаванні Канстытуцыі і законаў рэспублікі. Кожны дзень мы бачым і чуем па тэлебачанні і радыё, чытаем у дзяржаўных газетах аб аб'яднанні нашага грамадства, аб стабілізацыі ў эканоміцы, узмацненні і пашырэнні інтэграцыйных працэсаў з Расійскай Федэрацыяй, пашырэнні замежных інвестыцый і неабходнасці падтрымаць Прэзідэнта ў яго намаганні ўстанавіць у краіне абсалютную ўладу аднаго чалавека — Прэзідэнта.

Усё гэта было б, мабыць, і добра, калі б гэта не быў чысты папулізм — палітычны падман. Ды не проста падман, калі чорнае называецца белым, а белае — чорным, хаця і гэтага хапае, а падман кваліфікаваны, на мой погляд, таленавіты папулізм. Падман ідзе ў тым накірунку, каб людзі пачулі тое, што яны хочуць пачуць. Напрыклад, як гэта рабілася і раней: людзі жадалі, каб хутчэй скончылася першая сусветная вайна, каб мець кавалак сваёй зямлі, работу і гадаваць дзяцей.

І ім абяцалі: канец вайне, мір — народам, зямлю — сялянам, фабрыкі і заводы — рабочым! І людзі паверылі ў гэты падман, а што з гэтага атрымалася, усім добра вядома. На жаль, людзі не памятаюць сваіх памылак, за якія ім прыходзілася разлічвацца самай невераgоднай цаной. Ніякіх рэальных падстаў для выканання абавязкаў няма і наогул не будзе, як, напрыклад, немагчыма вяртанне былых парадкаў і былога СССР.

Я ніколі не выступаў і не выступаю ні супраць Прэзідэнта асабіста, ні супраць яго адміністрацыі. Я выступаю супраць парушэння Канстытуцыі і законаў, з чыйго б боку гэта ні зыходзіла, супраць усякага папулізму — палітычнага зману, нават калі гэта будзе зыходзіць ад Вярхоўнага Савета.

Сцвярджэнне аб кансалідацыі і аб'яднанні беларускага грамадства — гэта чысцейшы падман, які падабаецца пэўнай частцы насельніцтва. На самай справе, калі параўноўваць з 1994 годам, то ў рэспубліцы за апошнія 2,5 года адбыўся і далей адбываецца распад беларускай нацыі, раскол на часткі ў палітычным плане, на «за» ці «супраць». Грамадства раскалолася на пажылых і маладых, на мужчын і жанчын. У сваю чаргу пажылыя падзяліліся на ветэранаў вайны і неветэранаў, моладзь спрабуюць раскалоць на моладзь дзеяння і на моладзь прамога дзеяння, на тых, хто «за» і хто «супраць». Па падходах да палітычных пытанняў падзяляюцца нават сем'і. Акрамя таго, ідзе спланаваны раскол дэпутатаў, у Прэзідыуме, фракцыях парламента, палітычных партый (камуністаў, аграрыяў, сацыялістаў), робяцца спробы проціпастаўлення рэлігійных канфесій:

праваслаўных — каталікам, католікаў — праваслаўным і ўсіх разам — уніятам.

Значна пагоршыліся нашы знешнеэканамічныя адносіны з краінамі Захаду. Калі ў 1994 годзе мы мелі значныя перавагі перад Украінай, Расіяй, нават Малдовай для ўступлення ў Савет Еўропы і ў Еўрапейскі Саюз, то зараз мы апынуліся там, адкуль вельмі цяжка выйсці. Замежныя інвестыцыі ў 1996 годзе ў параўнанні з 1994 годам скараціліся ў некалькі дзесяткаў разоў.

Нягледзячы на стварэнне Садружнасці васьмі, чатырох, трох і Супольнасці двюх дзяржаў, мы не пашырылі інтэграцыю з Расіяй, а толькі скарацілі яе, значна павялічыўшы свае даўгі Расіі і матэрыяльныя страты на ўтрыманне розных міжнародных структур. Усё гэта прыводзіць да вынікаў, што на словах нам гавораць аб аб'яднанні нацыі, а на самай справе робяць усё, каб раз'яднаць людзей па прынцыпу «падзяляй і валодай», хаця ні для кога не сакрэт, што гэты шлях — шлях у нікуды, шлях да ганьбы і знявагі, і ў першую чаргу тых, хто яго праводзіць. На мой погляд, гэта шлях сляпых, якія і вядуць за сабой сляпых.

Найвышэйшага ўзроўню папулізм дасягнуў у апошнія дні — дні правядзення рэферэндуму. Прэзідэнт выдае чарговы ўказ, якім рэгулюе законы рэспублікі і трактуе, як праводзіць вынікі рэферэндумаў у жыццё, хаця гэта супярэчыць існуючым законам. Больш таго, Прэзідэнт не пагаджаецца з рашэннем Канстытуцыйнага суда і Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэферэндуму і сцвярджае сам і ягонае акружэнне, што народ мае парва вырашаць усе без выключэння пытанні ў краіне.

Можна было б з гэтым пагадзіцца, але ж справа датычыцца толькі таго, што народ на рэферэндуме можа зацвердзіць праект Прэзідэнта, падараваць яму тэрмін паўнамоцтваў на 2,5 года ні за што ні пра што, але зняць яго на сваім народным рэферэндуме не мае права, і нават рэферэндум без дазволу Яго Вялікасці не правядзе.

Больш таго, хачу нагадаць, што ў Законе «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» была ўключана прававая норма аб адкліканні Прэзідэнта з пасады пры пэўных акалічнасцях выбаршчыкамі на рэферэндуме, але гэта не спадабалася Прэзідэнту, і ён абскардзіў гэтую норму закона ў Канстытуцыйны суд, які, на жаль, задаволіў яго скаргу.

Цяжка зразумець нават не простаму чалавеку, дзе тут усеўладдзе народа. А дзе ім нават і не пахне.

Такіх парушэнняў, якія ўжо сёння назіраюцца пры правядзенні рэферэндуму, ні наша, ні іншыя краіны свету, мабыць, не бачылі. Аб гэтым ужо выказваўся Віктар Іосіфавіч Ганчар. Галасаванне пачалося з 9 лістапада для тых, хто па важкіх прычынах не можа знаходзіцца на тэрыторыі рэспублікі 24 лістапада (ч. 9 арт. 28 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме)». Але ж узурпіраваныя тэлебачанне, радыё і дзяржаўныя газеты запрашаюць людзей у любы вольны час прыйсці на выбарчы ўчастак і прагаласаваць, пачынаючы з 9 лістапада, без усякага тлумачэння ўмоў гэтага галасавання.

Нават сам Прэзідэнт А. Р. Лукашэнка, выступаючы па тэлебачанні ў «Панараме» 9 лістапада, вельмі жаласліва запрасіў усіх выбаршчыкаў прагаласаваць да 24 лістапада, наўмысна не растлумачыўшы абавязковых умоў для такога галасавання.

Акрамя таго, у гэтым выступленні па тэлебачанні, а потым трансліраваным ужо і па радыё Прэзідэнт зняважыў усіх сваіх палітычных апанентаў, у тым ліку і ўвесь Вярхоўны Савет, і Старшыню Вярхоўнага Савета, назваўшы іх «палітычнымі авантурыстамі». Гэта публічная знявага ўтрымлівае ў сваім саставе крымінальнае злачынства. Запалохваў людзей тым, калі людзі не падтрымаюць яго — Прэзідэнта — на рэферэндуме, што будзе вайна і страшная бойня.

Больш таго, галасаванне пачалося 9 лістапада без апублікавання тэкстаў Канстытуцыі, усляпую.

Пры правядзенні рэферэндумаў і выбараў умовы для ўсіх, хто выступае «за» ці «супраць» рэферэндуму або асобных яго пытанняў, павінны быць аднолькавымі, у тым ліку на тэлебачанні, радыё і ў газетах. Да самага апошняга дня кожны грамадзянін, кожная партыя, грамадскі рух маюць права выступаць «за» ці «супраць» рэферэндуму ў цэлым або асобных яго пытанняў. У нас усё атрымліваецца наадварот: хто «за» — калі ласка, у любы час на тэлебачанне, радыё, у газету, а хто супраць — той вораг, карупцыянер, ці яшчэ горш — здраднік і палітычны авантурыст.

Было б больш-менш правільна хоць у нейкай меры, калі на рэферэндуме народ падтрымае Прэзідэнта — мы ўсе павінны будзем падпарадкавацца яму; калі не — то ён павінен пайсці ў адстаўку, як і абяцаў у сваёй перадвыбарнай праграме ў 1994 годзе. Але ж гэтага не будзе. Ёсць адзін толькі непамерны страх — страціць пасаду. Таму і атрымліваецца гульня ў адны вароты: калі народ на рэферэндуме падтрымае Прэзідэнта — ён застаецца ўладарыць, а калі не падтрымае — ён таксама застаецца ўладаром.

Вось і ўся вам праўда, паважаныя людзі. Таму мы павінны аб'яднацца і не дапусціць парушэнняў Канстытуцыі і законаў. Данесці праўду да выбаршчыкаў у такой абстаноўцы можна толькі праз дэпутатаў усіх узроўняў. Таму я і заклікаю іх да гэтага.

**Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М. ГРЫБ.**

# ЗЯМЛІ ПАТРЭБНЫ НЕ КАЛЕКТЫЎНЫ ПАДЗЁНШЧЫК, А ГАСПАДАР

З моманту свайго заснавання (1991 г.) Беларуская сялянская партыя выступае за права прыватнай уласнасці на зямлю, права на валоданне, карыстанне і распараджэнне ёю. Сучасная эканамічная тэорыя пад распараджэннем зямлёй разумее права продажу, арэнды, закладу, падзелу, права на спадчыну. Сусветная практыка даказала, што зямлі ў любой дзяржаве патрэбен гаспадар.

Нашы апаненты спрабуюць даказаць, што ў лепшыя гады савецкая калгасна-саўгасная сістэма давала мяса, малака, ільну і г. д. на ўзроўні перадавых заходніх краін. Гэтую лухту моцна ўбілі ў галаву многім людзям, нават некаторыя навукоўцы апантана яе абараняюць. Давайце разбяромся.

Па-першае, атрымаць прадукцыю — не самамэта. Галоўнае — выкарыстаць яе, пусціць у справу. Афіцыяльная савецкая статыстыка сцвярджала: страты прадукцыі сельскай гаспадаркі дасягалі ў сярэднім трыццаць працэнтаў. За мяжой закуплялі прадуктаў таксама трыццаць працэнтаў. Дык што ж гэта рабілася? Аралі, сеялі, збіралі... і гнаілі. А потым з торбаю ехалі ў іншыя краіны і куплялі. І так з году ў год.

Па-другое, агульныя паказчыкі вытворчасці — не заслуга адных калгасаў і саўгасаў. Дваццаць пяць працэнтаў прадукцыі атрымлівалі на прысядзібных участках жыхары вёсак і гарадоў.

Параўнаем сельскую гаспадарку Беларусі і ФРГ, скажам, за 1986 год. Пачатак перабудовы, усе эканамічныя сувязі дзейнічаюць, і таму лічбы яскрава адлюстроўваюць тагачаснае становішча:

| | БССР | ФРГ |
|---|---|---|
| **Тэрыторыя** (тыс. кв. км) | 207,6 | 248 |
| **Насельніцтва** (млн. чал.) | 10 | 60 |
| **Пасяўная плошча** (млн. га) | 6,2 | 7,2 |
| **Ворнай зямлі на душу насельніцтва** (га) | 0,62 | 0,12 |

Гэта табліца сведчыць, што асноўнае багацце беларусаў — зямля. Па гэтым паказчыку мы пераўзыходзім багацейшую краіну Еўропы ў пяць разоў. Як жа мы выкарыстоўваем гэтае багацце?

Адказ дае другая табліца:

| Атрымана ў 1986 г. млн. т. | Збожжа | Бульбы | Цукровых буракоў | Мяса | Мяса на аднаго занятага ў с/г |
|---|---|---|---|---|---|
| БССР | 7,0 | 13,4 | 1.6 | 0,9 | 0,8 |
| ФРГ | 24,3 | 7,3 | 20,2 | 4,7 | 5,0 |

Не забудзем: пасяўныя плошчы Беларусі і ФРГ амаль роўныя, а землі ў Германіі горшыя. Тым не менш, немцы мелі больш, чым беларусы, збожжа — у 3,4, мяса — у 5,2, цукровых буракоў — у 12,6 раза. Толькі па вытворчасці бульбы паказчык у нас лепшы. Але гэта — вынік працы ўладальнікаў прысядзібных участкаў. Напрыклад, у 1995 годзе калгасы і саўгасы накапалі бульбы паўтара мільёна тон, а прыватны сектар — восем мільёнаў. Тое ж было і раней, будзе і сёлета.

Асабліва ўражвае лічба атрыманага мяса на аднаго занятага ў сельскай гаспадарцы. У ФРГ яна ў 6,25 раза перавышае паказчык Беларусі лепшых гадоў.

Як бачыце, калгасна-саўгасная сістэма ніколі не была і ўжо ніколі не будзе на ўзроўні развітых краін, дзе дзейнічае права прыватнай уласнасці на зямлю. Чаму так? На першы погляд, шырокія палеткі Беларусі, магутная тэхніка і адукаваныя спецыялісты ствараюць добрыя ўмовы для эфектыўнай гаспадаркі. Не атрымліваецца.

На нашу думку, тут адмоўна дзейнічаюць некалькі фактараў. Адсутнічае матывацыя працы на сябе: людзі толкам не працуюць, таму паўсюдна нізкая вытворчасць і вялікая безгаспадарчасць. Нездарма мудры чалавек, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Старавойтаў сказаў: «У калгасе няма такой сілы, якая прымусіла б чалавека добра працаваць».

Калгасы ў нас фактычна адзяржавілі. Чыноўнікі як раней, так і цяпер назначаюць цэны на прадукцыю, заключаюць кантракты на яе продаж. Ідзе адкрыты грабеж сялян. Каб прыкрыць незадаволенасць такімі парадкамі, утрымліваецца шматлікі кіраўніцкі апарат. Па гэтым паказчыку мы займаем першае месца ў свеце. Так, у ЗША на 250 мільёнаў насельніцтва прыпадае 118 тысяч чыноўнікаў у сельскай гаспадарцы, у Рэспубліцы Беларусь на 10 мільёнаў насельніцтва — 130 тысяч кіраўніцкага апарату.

З працай аднаго амерыканскага кіраўніка ў сельскай гаспадарцы ў нас спраўляецца 27,56. А як спраўляюцца, бачна з параўнання ФРГ і БССР. Дрэнна спраўляюцца, вельмі дрэнна.

Тым не менш падкрэслім: Беларуская сялянская партыя ніколі не выступала за неадкладны разгон калгасаў. Мы — за рэформу іх.

Тэхналогія зямельнай рэформы будзе залежаць ад заканадаўства. БСП прапануе прыняць закон аб зямлі і на яго аснове ўтварыць рэзервовы зямельны фонд. У яго варта перадаць 15 працэнтаў зямлі калектыўных гаспадарак і 10 працэнтаў дзяржаўнага ляснога фонду. Трэба вызначыць сярэдні зямельны пай для кожнай калектыўнай гаспадаркі і даць права выхаду калгаснікам і рабочым саўгасаў з паем зямлі і доляй маёмасці. Афармляць зямельны пай тым, хто хоча працаваць самастойна, у прыватную ўласнасць. Бясплатна афармляць!

Неабходна зняць абмежаванні на памер прысядзібнай і фермерскай гаспадаркі, устанавіць адзіны падатак на зямлю і даць поўную свабоду вытворцам сельскай гаспадаркі ўсіх формаў уласнасці.

Толькі на такіх асновах могуць утварацца добраахвотныя калектыўныя гаспадаркі. Як сказаў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання В. Лявонаў, калектыўнае павінна быць сумай прыватнага. Такі падыход дазволіць правесці зямельную рэформу без разбурэння матэрыяльна-тэхнічнай базы калектыўных гаспадарак, без «чорнага» перадзелу і крывавых разборак. Ён адпавядае інтарэсам усіх сацыяльных слаёў Беларусі.

Цяпер, калі ў гарадах расце беспрацоўе, рэзервовы фонд зямлі дазволіць прыняць у вёску былых вяскоўцаў. Многія з іх і сёння шчыруюць на павялічаных прысядзібных участках бацькоў і сваякоў. Вясковая торба сала стала значным фактарам стабільнасці ў гарадах Беларусі.

Калі ж у кіраўніцтва дзяржавы не хопіць палітычнай волі і мужнасці на правядзенне зямельнай рэформы, то цяперашняя калгасна-саўгасная сістэма яшчэ доўга будзе гніць і атручваць жыццё беларускаму грамадству.

**Яўген ЛУГІН,**
**старшыня Беларускай сялянскай партыі.**

# ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ЛУКАШЭНКА ЗАЯЎЛЯЕ АБ АДХІЛЕННІ АД ПАСАДЫ СТАРШЫНІ ЦЭНТРВЫБАРКОМА ГАНЧАРА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адхіліў ад займаемай пасады кіраўніка Цэнтрвыбаркома краіны Віктара Ганчара. Аб гэтым заявіў кіраўнік дзяржавы ў прамым тэлеэфіры ў чацвер у Мінску.

Каменціруючы ў інтэрв'ю «Інтэрфаксу» гэта рашэнне Прэзідэнта, намеснік кіраўніка яго адміністрацыі Уладзімір Замяталін падкрэсліў, што «гэта зроблена ў сувязі з неадпаведнасцю дзейнасці В. Ганчара на сваёй пасадзе заканадаўству рэспублікі, якое рэгламентуе функцыі старшыні Цэнтрвыбаркома».

В. Ганчар адхілены ад пасады «за палітыканства і выкарыстанне службовага становішча для дасягнення сваіх палітычных мэтаў — дэстабілізацыі становішча ў рэспубліцы і нагнятання антыпрэзідэнцкай істэрыі», адзначыў У. Замяталін.

Ён сказаў, што, згодна з заканадаўствам, кіраўнік Цэнтрвыбаркома не павінен займацца палітыкай. У яго абавязкі ўваходзіць дакладнае выкананне ў адпаведнасці з законам у першую чаргу тэхнічных функцый па забеспячэнню праводзімага ў краіне ўсенароднага рэферэндуму па прыняццю новай Канстытуцыі.

В. Ганчар быў зацверджаны на пасадзе старшыні Цэнтрвыбаркома парламентам краіны некалькі месяцаў назад.

**Інтэрфакс.**

**АДСТАЎКА КІРАЎНІКА ЦВК БЕЛАРУСІ СТАЛА «ЛАГІЧНЫМ ВЫНІКАМ» ЯГО ПАЛІТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ**

Адстаўка кіраўніка Цэнтральнай выбарчай камісіі Беларусі Віктара Ганчара стала «лагічным вынікам яго дзейнасці па дэстабілізацыі становішча ў грамадстве і дэзарганізацыі работы ЦВК па правядзенню рэферэндуму ў рэспубліцы». Так пракаменціраваў «Інтэрфаксу» ў пятніцу адпаведны ўказ Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі кіраўнік яго прэс-службы Валерый Талкачоў.

На яго думку, «былы кіраўнік ЦВК, спачатку стаўшы на шлях канфрантацыі з Прэзідэнтам і падладжвання пад апазіцыйныя яму палітычныя сілы, рабіў усё магчымае для зрыву праводзімага з 9 па 24 лістапада плебісцыту па прыняццю новай Канстытуцыі Беларусі».

Як кіраўнік Цэнтрвыбаркома В. Ганчар неаднаразова ў сваёй дзейнасці «дапускаў грубейшыя парушэнні заканадаўства, пасля чаго заяўляў аб гатоўнасці несці персанальную адказнасць за невыкананне ўказаў кіраўніка дзяржавы і іншых прававых актаў, — падкрэсліў В. Талкачоў. — Вось В. Ганчар і адказаў за свае дэструктыўныя дзеянні — Прэзідэнт вызваліў яго ад высокай і адказнай пасады».

В. Талкачоў лічыць «галоўнай памылкай В. Ганчара празмернае захапленне палітычнымі інтрыгамі і жаданне гуляць у палітычныя гульні, што супярэчыць статусу кіраўніка ЦВК».

Згодна з беларускім заканадаўствам, у абавязкі кіраўніка Цэнтрвыбаркома «ўваходзіць не заняцце палітыкай, а хутчэй тэхнічныя функцыі, якія зводзяцца ў канчатковым выніку да забеспячэння правядзення рэферэндуму і кантролю за захаваннем законнасці ў адпаведнай працэдуры», — адзначыў В. Талкачоў.

**Інтэрфакс.**

**ВАЛЕРЫЙ ЦІХІНЯ НЕ ЗГОДНЫ З АДСТАЎКАЙ ВІКТАРА ГАНЧАРА**

Старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня рэкамендаваў Прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнку адмяніць свой указ аб вызваленні ад пасады старшыні Цэнтрвыбаркома Віктара Ганчара за спробы перашкаджаць волевыяўленню народа на рэспубліканскім рэферэндуме. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, аб гэтым ён заявіў у пісьме, накіраваным Прэзідэнту дзяржавы 15 лістапада.

Валерый Ціхіня лічыць, што, згодна з Канстытуцыяй і Законам аб Вярхоўным Савеце, выключнае права фарміравання Цэнтрвыбаркома і выбрання яго старшыні належыць парламенту. На яго думку, Канстытуцыя не дае права Прэзідэнту вызваляць (назначаць) кіраўніка Цэнтрвыбаркома. У сувязі з гэтым, заявіў Валерый Ціхіня, ён ацэньвае ўказ у адносінах да В. Ганчара як выдадзены з перавышэннем кіраўніком дзяржавы сваіх канстытуцыйных паўнамоцтваў.

**БЕЛТА.**

**В. ГАНЧАРА СІЛАЙ ВЫВЕЛІ З КАБІНЕТА**

15 лістапада ў Мінску адбылася падзея, якую Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі назваў «пачаткам дзяржаўнага перавароту з выкарыстаннем сілы». Сямён Георгіевіч заявіў гэта дзесятку журналістаў і прысутных у момант, калі яго і Генеральнага пракурора Васіля Капітана група ахоўнікаў са службы бяспекі Прэзідэнта пад камандаваннем палкоўніка Міхаіла Цесаўца не прапусціла ў памяшканне Цэнтрвыбаркома. Некалькімі хвілінамі раней гэтыя ж прадстаўнікі спецслужбы з прымяненнем фізічнай сілы вывелі з кабінета старшыню ЦВК Віктара Ганчара. М. Цесавец патлумачыў свае дзеянні ўказам Прэзідэнта аб зняцці В. Ганчара. Аднак апошні заявіў, што гэты ўказ супярэчыць Канстытуцыі і таму не дзейнічае, па гэтай прычыне В. Ганчар мае намер працягваць сваю работу на пасадзе старшыні ЦВК. Старшыня КС В. Ціхіня таксама падкрэсліў у сваім лісце А. Лукашэнку, што апошні перавысіў свае паўнамоцтвы.

Гэты ўказ стаў тэмай для разгляду на пасяджэнні Прэзідыума ВС, на якім адзначалася яго незаконнасць. Прынята рашэнне правесці нечарговае пасяджэнне парламента ў панядзелак у 14.00.

Тое ж, што адбывалася ўчора ў памяшканні ЦВК, нельга назваць іначай, як скандалам. Ахоўнікі ў тры кардоны загарадзілі дзверы ЦВК, а таксама акружылі сам будынак. Спробы дэпутата В. Шчукіна прарвацца ў ЦВК завяршыліся бойкай, але ахова не адступіла. М. Цесавец заявіў, што ён мае загад Прэзідэнта і не прапусціць нікога. Гэта было заяўлена нават Генеральнаму пракурору В. Капітану і кіраўніку парламента. Аднак В. Капітан здолеў прымусіць палкоўніка Цесаўца выканаць не загад, а Закон. Пракурор і спікер прайшлі ў памяшканне ЦВК, але В. Ганчара туды не прапусцілі. С. Шарэцкі вырашыў звярнуцца да акрэдытаваных у Мінску паслоў і расказаць пра антызаконныя дзеянні выканаўчай улады. Тым часам ахова на чале з Цесаўцом чакала распараджэнняў ад А. Лукашэнкі, які быў у ад'ездзе. Скандал вакол указа А. Лукашэнкі аб зняцці з пасады В. Ганчара працягваецца і пагражае паставіць пад сумненне легітымнасць рэферэндуму, што адбываецца.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

**ЧЛЕНЫ ЦЭНТРАВЫБАРКОМА АДМЯЖОЎВАЮЦЦА АД ЗАЯЎ ВІКТАРА ГАНЧАРА**

«Заявы адной службовай асобы ад імя камісіі, нават калі гэта службовая асоба з'яўляецца яе старшынёй, не адпавядаюць дзеючаму заканадаўству». Так гаворыцца ў заяве членаў Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, распаўсюджанай 15 лістапада.

Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі, гаворыцца ў гэтым дакуменце, усё часцей і часцей паяўляюцца заявы старшыні Цэнтрвыбаркома Віктара Ганчара наконт маючага адбыцца народнага галасавання (рэферэндуму). Прычым ён выказвае сваю думку ад імя камісіі, часта ў катэгарычнай форме. Аднак Цэнтрвыбарком, падкрэсліваюць аўтары заявы, з'яўляецца па закону калегіяльным органам, які прымае свае рашэнні ва ўстаноўленым парадку.

У ходзе падрыхтоўкі і правядзення рэспубліканскага рэферэндуму і выбараў пазіцыя Цэнтрвыбаркома, гаворыцца ў заяве, павінна выражацца ў строгім выкананні дзеючага заканадаўства. Камісія не можа ўмешвацца ў палітычныя працэсы, тым больш, што дзейнасць яе членаў павінна быць аб'ектыўнай і непрадузятай. У іншай сітуацыі зацікаўленыя грамадзяне, дзяржаўныя органы, палітычныя партыі і іншыя суб'екты палітычнага працэсу, адзначаецца ў гэтым дакуменце, прызнаюць праводзімыя мерапрыемствы і вывады Цэнтрвыбаркома па выбарах і рэферэндуму неаб'ектыўнымі, што паставіць пад сумненне іх вынікі. «У гэтых адносінах палітычныя заявы старшыні Цэнтрвыбаркома В. Ганчара, які аднačасова з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета, выходзяць за рамкі яго прафесіянальных абавязкаў. Яны штучна ствараюць канфліктную сітуацыю вакол Цэнтрвыбаркома і не садзейнічаюць яго нармальнай рабоце», — адзначаецца ў заяве.

«У сувязі з гэтым, — гаворыцца ў ёй далей, — мы, члены Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, вымушаны заявіць, што такія паводзіны старшыні Цэнтрвыбаркома В. Ганчара не адпавядаюць нашаму ўяўленню аб кіраўніку такога аўтарытэтнага органа. Мы адмяжоўваемся ад заяў В. Ганчара і лічым немагчымым яго далейшае знаходжанне на гэтай пасадзе».

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, заяву падпісалі 9 з 12 членаў Цэнтрвыбаркома.

Трое адсутнічалі. У ліку тых, хто падпісаў, Анатоль Роднікаў, Валянцін Сукала, Канстанцін Цімафяевіч, Віктар Мінін, Канстанцін Раманчанка, Рыгор Кажура, Лідзія Ярмошына, Іван Ліхач і Надзея Кісялёва.

На сваім пасяджэнні члены Цэнтрвыбаркома вырашылі звярнуцца ў Вярхоўны Савет з просьбай перагледзець пастанову парламента аб выбранні В. Ганчара на пасаду старшыні камісіі. Аднačасова яны аднагалосна рэкамендавалі назначыць выконваючым абавязкі кіраўніка Цэнтрвыбаркома Лідзію Ярмошыну — члена гэтай камісіі.

**БЕЛТА.**

**А 18-Й ГАДЗІНЕ**

пасля заканчэння працоўнага дня Віктар Ганчар і яго сакратарка, апячатаўшы памяшканне, у суправаджэнні дэпутатаў пакінулі памяшканне будынка на Кастрычніцкай, 5, дзе размяшчаецца Цэнтрвыбарком. На вуліцы іх сустрэў

пікет мінчан, якія выйшлі выказаць падтрымку Віктару Ганчару і сустрэлі яго апладысментамі.

Віктар Ганчар вечарам прыехаў для кансультацый з Сямёнам Шарэцкім, а частка дэпутатаў збіралася ўсю ноч дзяжурыць у парламенцкіх памяшканнях.

Вечарам пікетчыкі падышлі да будынку Вярхоўнага Савета.

**Валер КАЛІНОЎСКІ**

# У ЧАКАННІ ЭПАХАЛЬНАГА ЦУДА.

## ЦІ ВЫРАШЫЦЦА ЛЁС БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЙ ІНТЭГРАЦЫІ Ў СТУДЗЕНІ 1997 ГОДА?

Апошнія гады грамадзяне Беларусі вымушаны жыць у пастаянным напружаным чаканні эпахальных падзей. Напачатку гэтае спадзяванне на круты пералом многім жыць дапамагала. Уяўлялася: не бяда, што сёння вецер гуляе ў кішэнях, што не працуе родны завод і няма ніякага прасвету ў чарзе на кватэру. Затое ўсяго праз паўгода нам памяняюць нашых «зайцоў» на расійскія рублі па курсу 1:1...

Потым чарговай эпахальнай падзеяй было аб'яўлена заключэнне эканамічнага саюза. Пазней мы выбіралі будучыню на прэзідэнцкіх выбарах. Затым адкрывалі новую старонку ў беларуска-расійскіх адносінах, ламаючы шлагбаумы на межах і мытнях. Як у апошні і рашаючы бой, ішлі на рэферэндум 1995 года, каб прагаласаваць за інтэграцыю.

Здавалася, яшчэ крыху намаганняў, пару крокаў — і вось яно, асляпляльнае ззянне поўнага, канчатковага адзінства, разам з якім хлыне на нас паўнаводны паток дастатку і магутнасці.

Трыумф аб'яднання з усімі яго атрыбутамі — з перазвонам крамлёўскіх сабораў і благаслаўленнем патрыярха — здавалася, надышоў у красавіку 1996 года. «Ну, усё!» — з палёгкай уздыхнулі сівавалосыя ветэраны, паднімаючы чарку за СССР з цвёрдай упэўненасцю, што былыя заваёвы вернуты. «Усё!» — з надрывам і абурэннем чулі натоўпы моладзі і студэнтаў на мінскіх вуліцах, не жадаючы развітвацца з дзяржаўнай незалежнасцю.

Але аказалася, што і трыумф адных, і панічныя выступленні другіх зноў, у чарговы раз, аказаліся марнымі. Новы адлік часу не пачаўся, новая эпоха не надышла.

Многія лічаць, што пералом з усімі атрыбутамі новай эры адбудзецца 24 лістапада (адны на гэты дзень прызначаюць надыход дыктатуры і цемрашальства, другія — пачатак светлай паласы цвёрдай дэмакратычнай улады, калі скончацца палітычныя бойкі і народ пад мудрым кіраўніцтвам прыступіць, нарэшце, да стваральнай працы).

Аднак па самых апошніх, удакладненых звестках, і гэта яшчэ будзе не апагей, не апошняе ўзрушэнне. Каб вырашыць лёс інтэграцыі, каб на справе згуртаваць, а магчыма, і аб'яднаць беларускі і рускі народы, патрэбна сумеснае пасяджэнне парламентаў у студзені 1997 года.

Гэта ініцыятыва была агучана Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам з трыбуны расійскай Думы 13 лістапада, у мінулую сераду. Аднак аўтарства ідэі належыць не яму, а былому расійскаму «думцу» Канстанціну Затуліну. Гэтая прапанова была вылучана ім напрыканцы 1994 года і сустрэла тады досыць стрыманую рэакцыю беларускага Прэзідэнта. Не адмаўляючы магчымасці такога сходу, Аляксандр Лукашэнка пераадрасаваў ініцыятыву па прызначэнню — у тагачасны Вярхоўны Савет. Дзе яна ціха і сканала. Новай «Пераяслаўскай рады» не атрымалася — магчыма, таму, што на ролю Багдана Хмяльніцкага было шмат прэтэндэнтаў і акрамя Затуліна.

Беларускі народ не дужа трымаецца за сваю дзяржаўнасць, — гэта відавочна і для беларускіх, і для расійскіх палітыкаў (і для самога беларускага народа). Аб прычынах гэтай увогуле сумнай з'явы шмат напісана і сказана. Калі заўтра будзе аб'яўлена, што Беларусь становіцца суб'ектам абноўленай, саюзнай Расійскай Федэрацыі — гэта наўрад ці выкліча нейкія эксцэсы. Наадварот, калі б адпаведнае пытанне было вынесена на рэферэндум, — амаль не даводзіцца сумнявацца, што беларусы прагаласавалі б «за».

Тады навошта гэта гульня ў інтэграцыю? Для чаго бясконца абнадзейваць і падманваць людзей, абяцаючы светлую будучыню то праз месяц, то праз паўгода, то праз год?

Назіраючы за падзеямі апошняга часу, усё больш даводзіцца схіляцца да крыўднай і горкай высновы: незалежнасць Беларусі, падобна, аказалася патрэбнай толькі жменьцы беларускіх і расійскіх палітыкаў. І то — у якасці тавару, «залатога ключыка», якім можна адчыніць запаветныя дзверы у галоўны крамлёўскі кабінет.

Разлік нескладаны: той, хто ўзніме над беларускім Домам урада бела-блакітна-чырвоны сцяг (магчыма, побач з цяперашнім чырвона-зялёным) той і стане галоўным прэтэндэнтам на крэсла прэзідэнта аб'яднанай дзяржавы. І галоўнае ў гэтай гульні — чуйна ўлавіць кан'юнктуру, своечасова стартаваць, каб не прадаць танна і не аказацца ў пройгрышы.

А тое, што гандаль ідзе і што беларускія палітыкі ўсіх рангаў і напрамкаў ужо сёння імкнуцца вырашаць унутраныя праблемы сваёй фармальна пакуль незалежнай краіны ў чужой сталіцы, — відавочна. Тым, хто ўсё яшчэ верыць у надыход абяцанай эпахальнай падзеі, магу параіць: не спадзявайся, што яна надыдзе ў студзені 1997 года. Барыс Ельцын, які, падобна, неўзабаве канчаткова ачуняе ад сардэчнай хваробы, да ліпеня 2000 года нікому свой чамадан з кнопкай не аддасць — нават у імя самых высакародных ідэй аб'яднання. Не тая натура.

Так што за лёс беларускай незалежнасці яшчэ прынамсі тры з паловай гады можна быць спакойнымі. А там — як Бог дасць!

**Валянцін ЖДАНКО.**

## УРАДЖАЙ НЕБЛАГІ. А ФІНАНСЫ — ПА НУЛЯХ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Тым не менш, нягледзячы на ўсё гэта, кіраўнік гаспадаркі Уладзімір Лысы падчас сустрэчы і гутаркі з ім быў яўна не ў настроі. Нават не зважаючы на пярэдадзень прафесіянальнага свята работнікаў сельскай гаспадаркі. Глыбокай восенню ў сялянскіх гаспадарках не проста выводзяць ураджайнасць, а падлічваюць у цэлым увесь эфект ад прайшоўшага сельскагаспадарчага года, падбіваюць «агульныя бабкі». Ва Уладзіміра Пятровіча, як ні круці, атрымліваецца «па нулях». Вось такі, з дазволу, эфект. Як зазначыў Уладзімір Пятровіч, «працуем на пусты мех». Адкуль жа гэты нуль вырастае? (Між іншым, аказваецца, гэта яшчэ няблага, калі нуль, — многія ўвогуле з мінусам заканчваюць год.) Нуль у першую чаргу «расце» з вытворчасці мяса і малака (зрэшты, як вынікае са сказанага старшынёй, нямала цягнуць і затраты на запчасткі, на паліва, на ўгнаенні...). Стратныя гэтыя віды прадукцыі, прычым у найбольшай ступені з-за праводзімай дзяржаўнай палітыкі закупачных цэн. «У мяне бралі малако па 1700 рублёў за літр, вышэй было нельга, а ў магазіне яно па 4 тысячы. У каго аселі астатнія грошы?.. Цяпер закупачныя цэны павышаюць, але ж ненамнога, а долар вунь наколькі вырас...», — даводзіў Уладзімір Пятровіч.

Варта дадаць: ці не з-за недасканаласцей палітыкі закупачных цэн, празмернага імкнення дзяржавы трымаць пад сваім пільным кантролем мяса-малочную вытворчасць апошняя падае як па аб'ёмах, так і па прадуктыўнасці? Эканамічныя законы не абыдзеш: усё тое, што нявыгадна для гаспадарак, так або інакш будзе імі ігнаравацца. І нельга ў дадзеным выпадку абвінавачваць іх, яны маюць на ўвазе свае інтарэсы, інтарэсы сваіх людзей. Між іншым, закупачныя цэны як быццам ужо аднойчы аб'яўляліся свабоднымі...

Карацей, нягледзячы на яўна неблагія вынікі года, думае старшыня ўсё тую ж нялёгкую для многіх старшынь думу: дзе ўзяць грошы пад будучы ўраджай? «Мы пабудавалі сёлета першую прыступку на выхаду з тупіка, а іх яшчэ пяць...», — падсумоўвае старшыня.

Што ж патрэбна рабіць кардынальнае, істотнае?

Па-першае, лічыць Уладзімір Пятровіч, не трэба прадаваць прадукцыю «сыравінай», нявыгадна гэта. Адпаведна, трэба наладжваць сваю перапрацоўку. Дарэчы, у гаспадарцы і робяцца пэўныя крокі ў гэтым напрамку: тут у хуткім часе павінен пачаць працаваць свой малочны цэх. Па-другое, трэба смялей і як найхутчэй укараняць новыя прагрэсіўныя тэхналогіі, накштальт галандскіх. Ужо ў наступным годзе ў «нашай» гаспадарцы, з улікам набытага сёлета вопыту, мяркуюць зняць прадукцыі з кожнага квадратнага метра, пры тых жа затратах, працэнтаў на 35—40 больш. І, па-трэцяе, трэба ўсё ж рэфармаваць гаспадаркі. Каб у выніку зніжаліся тыя ж выдаткі. Па сёлетняму году рэнтабельнасць у калгасе Арджанікідзе павінна скласці прыкладна 10 працэнтаў. «Але хіба гэта рэнтабельнасць... З улікам інфляцыі і росту таго ж долара...» Пэўнае рэфармаванне патрэбна ўжо для таго, каб не хадзіць «з кіем у руках», каб кожны выканаўца, нават самы радавы, адчуваў належную адказнасць...

У гаспадарцы адну прыступку ўсё ж пабудавалі, але ж іх яшчэ трэба пяць...

**Іван БАРАНОЎСКІ.**



**На здымках:** загадчыца склада Тамара Латышава і работніца цяпліцы Марыя Кішчук аглядаюць прадукцыю, падрыхтаваную да адпраўкі ў гандаль; спецыяліст па кантрольна-вымяральных прыборах Уладзімір Казлоўскі на ўчастку, дзе размешчаны вузел вадкага сілкавання раслін.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



## ПАМІРАЦЬ ЗБІРАЙСЯ, А ЖЫТА СЕЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)**

— *Ці існуе зараз ранейшая дамова ў камуністаў з ідэалагічна блізкімі палітычнымі арганізацыямі?*

— Існуе, але, на жаль, яна парушалася яшчэ на першых этапах выбараў. Таму, нягледзячы на фармальнае захаванне дамоўленасці, і сёння, здаецца, ёсць чатыры акругі, дзе кандыдатаў развесці не ўдалося.

— *Сам факт сур'ёзнай падрыхтоўкі да выбараў сведчыць, што работа падтрымліваецца верай у тое, што прэзідэнцкі праект Канстытуцыі не атрымае адабрэння большасці выбаршчыкаў?*

— Я ў гэта веру і вельмі спадзяюся, што выбаршчыкі разбяруцца ў сітуацыі. Вядома, ёсць грамадзяне, якія, яшчэ не бачыўшы праекта, ужо галасуюць, але большасць у краіне — разумныя людзі, якія прачытаюць прапануемыя змены ці прыслухаюцца да слоў тых, што сёння перасцерагае іх ад наступстваў легкадумства.

— *Якім чынам на становішча ПКБ можа паўплываць з'яўленне альтэрнатыўнай камуністычнай арганізацыі на чале з вашым былым паплечнікам сп. Чыкіным?*

— Мы маглі прагназіраваць такія падзеі. Калі вы ведаеце, не так даўно ў друку быў артыкул Васіля Новікава «Было без радасці каханне, расстанне будзе без самоты, альбо Прыдворная партыя Аляксандра Лукашэнкі», дзе падобны сцэнарый дзеянняў прапаноўваўся яшчэ да іх пачатку. У чарговым нумары газеты «Таварищ» будзе на гэтую тэму яшчэ адзін артыкул В. Новікава. Адным словам, падзеі сведчаць, што Прэзідэнт імкнецца раскалоць партыю камуністаў як адну з апошніх арганізаваных сіл беларускага грамадства, выкарыстоўваючы пры гэтым прамы падман камуністаў-ветэранаў.

Але гэтая партыя — мёртванароджанае дзіця, яна не мае будучыні. У наваствораную арганізацыю можа перайшла мінімальная колькасць нашых прыхільнікаў — літаральна некалькі дзесяткаў чалавек. А ў маштабах рэспублікі гэта для нас неадчувальна. Дарэчы, большасць тых, хто прысутнічаў на ўстаноўчым з'ездзе КПБ, ніколі не былі ў саставе ПКБ.

Такім чынам, спроба расколу аказалася беспаспяховай. Да таго ж некаторыя ініцыятары стварэння новай камуністычнай партыі не хавалі сапраўдных мэтаў стварэння КПБ і сцвярджалі, што такім чынам яны змагаюцца з Калякіным і Новікавым. Калі ж у гэтым ёсць мэта цэлай партыі, то я жадаю ім поспеху.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.38 | 16.11 | 8.33 |
| Віцебск – | 7.34 | 15.56 | 8.22 |
| Магілёў – | 7.27 | 16.00 | 8.33 |
| Гомель – | 7.21 | 16.02 | 8.41 |
| Гродна – | 7.54 | 16.26 | 8.32 |
| Брэст – | 7.47 | 16.34 | 8.47 |

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра 18 лістапада.**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Абнаўленне храма вмч. Георгія.**

**К. Маці Божай Вострабрамскай, Гертуды дзевы.**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў. Па паўднёвай палавіне — туман. Тэмпература паветра ў Віцебску — каля 4, Мінску, Магілёве, Гродне 5 —7, Брэсце, Гомелі — 6—8 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 17-га па паўночна-заходняй палавіне рэспублікі пройдуць дажджы, удзень 18-га пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы — 0—5, удзень — 6—11 градусаў вышэй нуля.

— ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ —

# НЯДОБРЫЯ ВОЧЫ

У СТАРАЖЫТНЫХ БЫЛО перакананне, што вочы валодаюць уласцівасцю ўплываць на людзей. У многіх легендах існуе апісанне вачэй, якім прыпісвалі чароўную сілу, і да таго шкодную, што людзі ад гэтага позірку паміралі. Вандроўнікі Індыі гавораць, што ў грымучай змяі люты і абаяльны позірк. Пад яе позіркам навват смелы можа спалохацца, здранцвець, прычым, накіраваўшы на яе свой позірк, чалавек не можа яго адвесці. Гэтым здранцвеннем карыстаецца змяя, каб джаліць.

Рымляне таксама баяліся нядобрых вачэй. У іх было бажаство Fascinus, якое ахоўвала ад гэтага нават немаўлят. У звычай уваходзіла агаворвацца, адплёўвацца, калі хто хваліў іх прыгажосць, сілу ці іншыя цялесныя якасці. Менавіта па гэтай прычыне існавала і існуе прымета ў славянскіх народаў, што нованароджанае дзіця першыя 6 тыдняў неабходна хаваць ад наведвальнікаў, не пускаць да яго нікога, акрамя самых блізкіх сваякоў. А калі некаму і даводзіцца ўбачыць дзіця, дык баяцца хваліць яго прыгажосць, паўнату і здароўе.

Не толькі міфы, легенды, звычаі ўсіх народаў свету прыпісваюць позірку магчымасць увасабляць злосныя намеры. Нават вялікія ўрачы і мысліцелі мінулага верылі ў магію сурокаў. У Авіцэны, Фамы Аквінскага ёсць высновы аб уплыве позірку, які можа асаблівым выпраменьваннем заражаць паветра на адлегласці. Уплыў дзеяння можа быць скарацечны і не мець дрэнных наступстваў, а можа нанесці сур'ёзную шкоду, якую і называюць у народзе «сурокамі». Яшчэ ў сярэднія вякі быў складзены спіс хвароб, што выклікаюцца позіркам. У дарослых гэта худзізна, пухліны, паралічы, сутаргі, меланхолія, слепата, імпатэнцыя, пражэрлівасць, у дзяцей — бяссонніца, ваніты, галаўныя болі, эпілептычныя прыпадкі. Дарослыя, якіх сурочылі, неспакойныя, адчуваюць несвядомы страх. У іх мяняецца колер твару ад жоўтага да шэрага, яны адчуваюць болі ў страўніку, ваніты, часта паціраюць рукі. Для дзяцей сімптомамі сурокаў лічыцца раптоўная бледнасць, пахудзенне, слабы і нераўнамерны пульс, гарачка, патлівасць, адсутнасць апетыту (з дапамогай урача неабходна выключыць інфекцыйныя хваробы).

У розных народаў называюцца розныя прыметы тых людзей, якія валодаюць дрэнным вокам. У славянскім фальклоры нядобрымі вачамі лічыліся касыя, чорныя, вельмі вырачаныя ці глыбока запалыя. Ва ўсе часы баяліся пачварных старых жанчын.

Заўважана, што сурочыць і тым самым нашкодзіць бліжняму здольны практычна любы чалавек. Больш таго, многія часта робяць гэта ненаўмысна, міжволі, не здагадваючыся, якую небяспеку яны ўяўляюць для акружаючых.

Ці значыць гэта, што нельга засцерагчыся ад сурокаў? Не. Інфекцыя таксама ёсць паўсюдна, але паражае яна не ўсіх. Калі вам здаецца, што побач уладальнік нядобрых вачэй, патрымайцеся за што-небудзь жалезнае. Моцным ахоўным дзеяннем валодаюць вострыя металічныя прадметы: нож, сякера, цвік, іголка, серп, ключы, падкова, самацветы блакітнага і чырвонага колеру, стужкі белага і чырвонага колеру. Цудоўным сродкам ад чараў лічыўся шум, брэх сабакі, стук па драўляных прадметах, бразготкі. Падазраваючы нядобрае, трэба пазвінець імі — гэта ахоўныя гукі. Засцерагчыся ад сурокаў лягчэй, чым ад іх пазбавіцца. Выкліканыя імі хваробы нельга вылечыць з дапамогай звычайных лякарстваў. Існуе практыка замоў, лячэбнай магіі, краевугольным каменем якой з'яўляецца практычнае веданне магнетызму і электрычнасці, малітваў, рытуалаў, выкарыстанне прэпаратаў жывёльнага і расліннага паходжання.

Існуюць рытуалы і замовы пры перапудзе, ліхаманцы, захворваннях сэрца, пухлінах, грыжы, зубным болі, рожы, ячмені, ад цёмных сіл, вар'яцтва, п'янства, эпілепсіі і г.д. Так, пры зняцці сурокаў з дзіцяці, якое плача без прычын, рэкамендуецца намачыць ніжні край спадніцы, камбінацыю з унутранага боку, працерці твар дзіцяці, чытаючы малітву «Отче наш...» Хутка дзіця супакоіцца. Замоў супраць сурокаў вельмі шмат.

Што гаворыць з гэтай нагоды навука?

Чалавек сам з'яўляецца магутнай крыніцай выпраменьвання. Асабліва моцна выпраменьваюць рукі і вочы. Вялізная статыстыка і вымярэнні паказваюць, што існуюць чатыры тыпы людзей, якія адрозніваюцца знакамі выпраменьванняў, пасылаемых пальцамі і вачамі. Выпраменьванне заўсёды мае знак «плюс» ці «мінус». Асноўным знакам чалавека служыць знак выпраменьвання вачэй. Па гэтай прымеце вылучаюцца два тыпы людзей — з «плюс»- і «мінус»-вачамі. Першага тыпу людзей больш, чым другога. Праз вочы чалавек можа ўздзейнічаць на ход любога працэсу, доследу, падзеі, хоць самым магутным выпраменнікам і носьбітам знака выпраменьвання лічыцца мозг чалавека. У звычайнага чалавека з «плюс»-вачамі абодва ўказальныя пальцы таксама маюць знак «плюс», а суседнія пальцы чаргуюць свае знакі. У людзей з «мінус»-вачамі ўказальныя пальцы нясуць адмоўны зарад. Такім чынам, як вочы, так і пальцы служаць магутнай крыніцай зарадаў абодвух знакаў. Дастаткова паківаць патрэбным пальцам, накіраваўшы яго кончык на аб'ект, каб яго зарадзіць. Прычым інтэнсіўнасць зараджэння залежыць ад энергетыкі чалавека і расце са скорасцю рухаў пальцаў. Па гэтай прычыне нас раздражняе мітуслівасць чалавека, таму што ён пачынае перазараджаць прастору, а калі сам з'яўляецца носьбітам адмоўнай энергетыкі, дык магутна заражае прастору, што часта адчуваюць акружаючыя і ў іх мяняецца настрой. Калі чалавек ведае, што ў яго цяжкі позірк ці, не ведаючы сваіх вачэй, не хоча нашкодзіць іншаму, трэба адводзіць свае вочы на іншыя прадметы, а выпраменьванне мозгу, г. зн. запал сваіх выказванняў, рабіць мякчэйшым, не канцэнтраваць ні на дрэнным, ні на вельмі добрым.



Сурокі — гэта адчувальнасць і неабароненасць чалавека ў адносінах да чужога арганізма выпраменьвання. Вельмі моцна энергетыку знака адчуваюць маленькія дзеці. Узнікае імгненная цэласная рэакцыя ўсяго арганізма на знешні раздражняльнік — выпраменьванне, яго змест і знак. Рэакцыя станоўчая ці адмоўная ў залежнасці ад значэння раздражняльніка, яго карыснасці і шкоднасці. Здольнасць адчуваць такую «сімпатыю» ці «антыпатыю» да сітуацыі ці асяроддзя назіраецца ў людзей, жывёл і нават у найпрасцейшых. Цела ахопліваецца эмацыянальнай бурай. У гэты працэс уцягваюцца залозы ўнутранай сакрэцыі, вегетатыўная і цэнтральная нервовая сістэма. Змяняецца эмацыянальны стан як фактар змянення псіхафізіялагічнага тонусу арганізма, а можа, і як рэакцыя змянення стану ўнутраных органаў. Сумна вядомыя інфаркты, язвы страўніка, мігрэні і іншыя расстройствы на «нервовай глебе», а таксама эмацыянальныя станы: страх —пры расстройствах сардэчнай дзейнасці, гнеўная раздражняльнасць — пры расстройствах печані, апатыя, абыякавасць — як парушэнне функцыі страўніка, пачуццё неспакою — пры цяжкасцях у апаражненні паласцевых органаў.

Вядома, што бываюць заразныя эмоцыі. Яны надзвычай лёгка перадаюцца ад чалавека да чалавека і нават могуць аказваць эмацыянальнае ўздзеянне на вялікія масы людзей. Разам з гэтымі лёгкімі, заразнымі эмоцыямі лёгка пранікае і знак выпраменьвання чалавека, які потым робіць тое ці іншае дзеянне ў арганізме. Адсюль мы інтуітыўна баімся лісліўцаў, шумна-эмацыянальных людзей, надзвычай і празмерна гаваркіх, абараняючы сябе ад магчыма неспрыяльных іх унутраных выпраменьванняў, г. зн. спрацоўвае ўнутраная ахоўная сістэма арганізма ў выглядзе пачуцця стрыманасці ў адносінах да знешніх праяў пабочных.

Носьбітам «сурокаў» можа быць любы, нават вельмі блізкі чалавек, а не толькі пабочны. Напрыклад, пачуццё ўнутранага саперніцтва ў доме паміж маці і цешчай (свякрухай) да дзіцяці, іх перакананасць, што нехта дзіцяці больш патрэбны, больш правільна і больш умела да яго ставіцца — вось ужо тыповы прыклад, які можа выклікаць у дзіцяці спачатку неспакой, потым хваробу. Пры гэтым жанчына, калі яна сапраўды не хоча нашкодзіць не павінна быць напорыстай, гучна размаўляць, настойваць на тым, каб дзіця аддалі ёй у рукі. Трэба ва ўсіх сітуацыях, асабліва з дзецьмі, праяўляць стрыманасць, ласку, дабро і адсутнасць мітусні.

Калі ж «сурокі» ўсё ж здарыліся і маюць эмацыянальныя, неглыбокія наступствы, дык бацькі могуць самі іх зняць як з сябе, так і з дзіцяці, надаўшы гэтай з'яве значнасць, пагаварыўшы ласкава як з самім сабой, так і з дзіцем, нават паспаўшы з ім некалькі дзён, пакуль эмацыянальная рэакцыя не пройдзе. Калі ж змяненні ўстойлівыя і працяглыя — звярнуцца да народных лекараў (калі традыцыйная медыцына не можа дапамагчы і не бачыць прычыны расстройства арганізма).

Цяпер вельмі добра стан «сурокаў» і іх наступствы здымаюць біяэнергатэрмічныя ўкладышы для ног «Piokal», якія і абараняюць, і выводзяць арганізм з наступстваў прабою энергетычнай аховы. Рэакцыя выхаду арганізма са стану сурокаў можа адбывацца ў час сну пры нашэнні вусцілак, пасля чаго чалавек, дзіця, адчуваюць сябе лёгка і свабодна. Для гэтага вусцілкі трэба на працягу 3-4 месяцаў насіць штодзённа, ці ў іх спаць. Яны быццам бы выштурхоўваюць чужую энергетыку з арганізма, аднаўляюць эмацыянальны фон і дапамагаюць потым арганізму адрэгуляваць паражоныя ўнутраныя органы і сістэмы. Звяртаецца шмат людзей і расказваюць, што страчвалі сілы, без прычын таялі, звярталіся з гэтай нагоды да многіх лекараў, у тым ліку і народных, але ім гаварылі, што «сурокі» вельмі моцныя і зняццю не паддаюцца. Пасля нашэння біяэнергатэрмічных укладышаў «Piokal» стан здароўя рэзка палепшаўся. У любым выпадку вельмі важна: чым менш людзей ведае, што вы здымаеце з сябе «сурокі», тым лепш для вас. Сітуацыя патрабуе маўчання, сканцэнтраванасці, сакрэтнасці, таму што ўнутраныя энергіі і звязаныя з імі станы мяняюцца, і часта не на карысць балбатлівых. Адбываецца рассейванне сваёй уласнай энергіі і паглыбленне дзеяння чужой.

**Л. МАЗАНІК,**

**кандыдат медыцынскіх навук, біяэнерга-тэрапеўт, дырэктар медцэнтра «Агнія».**

***18 лістапада спаўняецца 65 гадоў нашаму калегу, супрацоўніку «Звязды» Анатолю Вярцінскаму. Віншуем вядомага паэта і грамадскага дзеяча з днём нараджэння!***

**Звяздоўцы.**

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

# Лістападаўскія радкі

*Вялікія думкі —*
*як сонца з-за хмар.*
*Цаню я іх яснасць і напорнасць...*
*«Сон розуму параджае пачвар»,*
*«дрымота душы параджае подласць».*
*Душа не можа ў спокоі гібець.*
*Ёй трэба рухацца, плакаць і пець,*
*палаць агнём, струменіць ракой,*
*ноччу стагнаць, смяяцца ранкам,*
*птушкай ляцець, біцца падранкам...*
*Закон існавання душы — неспакой.*
*Трэба яшчэ ёй, душы людской,*
*любіць і верыць, быць дасканалай,*
*поўніцца музыкай ідэала...*
*Закон існавання душы — неспакой.*
*І ў гэтым яшчэ адна з зарук,*
*што вечнае наша летазлічэнне,*
*што ў справы нашай няма сканчэння —*
*ёсць толькі рух, ёсць толькі рух!*
*Кліча душа... І мы ідзём!*
*Побач ідуць белы і русы,*
*сябар з сябрам, маці з дзіцём,*
*бацька з сынам... Ідуць беларусы!*

*Вечар згушчаецца за акном.*
*Чую дзяціныя ціхія слоўцы:*
*«Дзеду, пабудзь ля мяне перад сном,*
*дзеду, пагладзь мяне па галоўцы».*
*Гадую ўнука. І радасць, і боязь.*
*Бацька на ўцёках, маці ў тусоўцы.*
*Настаўніца цяжка хварэе. Вось...*
*«Дзеду, пагладзь мяне па галоўцы».*
*Вярнуўся са школы. Пытанне ў вачах.*
*Пытанне пра сцяг бел-чырвона-белы...*
*«Мы летась вучылі, што князь наш быў смелы:*
*павязку сарваў ён і ўзняў як сцяг.*
*І воінаў зноў павёў за сабой,*
*і стаў уцякаць пераможаны вораг...*
*Чаму ж пра той сцяг дрэнна гавораць,*
*калі з тым сцягам выйгралі бой?»*
*Вечарам — той жа размовы працяг:*
*«Чаму не ўсе любяць*
*прыгожы наш сцяг?*
*Ён сёння прысніцца мне, я ведаю...*
*Пагладзь па галоўцы мяне, дзеду».*

*Гучыць ўсё тая ж песня старая —*
*пра няздатнасць майго края.*
*Гучыць ўсё той жа паклёп бязбожны:*
*нічога не ўмее мая Радзіма.*
*А крыж Узвіжальны майстра Богшы?*
*А жырандоль паэта Багрыма?*

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ВОСЕНЬ У ВЕРСАЛІ

Мелодыя палоніць. Элегічная, журботна-светлая, яна шчымліва кранае пачуцці. А голас, крыху задуменны, часам усхваляваны і напружаны, як у многіх французскіх шансанье, пераносіць у далёкі край, дзе кахаюць, не хаваючы страсці, намераў і памкненняў.

Песня гучыць на французскай і беларускай мовах. Спявае Аляксандр Ціхановіч. Ён і музыку напісаў да верша Леаніда Дранько-Майсюка. У красавіку 1991 года, у час падрыхтоўкі ансамбля «Шчаслівае здарэнне» да гастроляў па Канадзе, была створана песня «Ружа белая» (тэкст на французскую мову пераклаў прыяцель Аляксандра).

Меладычным прадаўжэннем гэтай песні з'явіўся новы сумесны твор Леаніда і Аляксандра — «Восень у Версалі». Ён навеяны прыемнымі ўспамінамі пасля паездкі ў Францыю.

У канцы студзеня—пачатку лютага 1992 года Леанід наведаў загадкавую і прыцягальную краіну. Мроі, якія раней бударажылі душу паэта, сутыкнуліся з хараством і прывабнасцю французскіх краявідаў. Убачанае і перажытае выклікала новы творчы ўсплёск. Узніклі вершы, якія асацыіруюцца з жывапіснымі палотнамі Клода Манэ, Каміля Пісаро. Ледзьве ўлоўныя імгненні пачуццёвых парыванняў Леанід увасобіў у паэтычных строфах-малюнках.

Верш «Восень у Версалі» — адзін з любімых у Леаніда. (Толькі адзін гэты верш паэт уключыў у зборнікі паэзіі, хоць на яго тэксты напісана каля сарака песень.) Кожны радок твора напоўнены ўзвышана-неадольнай, затоенай любоўю да творчага краю, да яго вольных людзей. Развіццё пачуццёвых адносінаў па-майстэрску перададзена ў музыцы. Яна абуджае настальгічныя ўспаміны, пабуджае да ўзнаўлення кахання, выклікае ў памяці вобраз каханай, перадае душэўныя перажыванні паэта.

Часам песня «Восень у Версалі» выконваецца на рускай мове (пераклад зрабіў кампазітар і выканаўца Аляксандр Ціхановіч).

**Міхась ШАВЫРКІН.**

МУЗЫКА
Аляксандра ЦІХАНОВІЧА
ВЕРШ
Леаніда ДРАНЬКО-МАЙСЮКА

*Плача раяль,*
*калі дождж не сціхае,*
*І мастакі пакідаюць Версаль,*
*Толькі паэт, той паэт,*
*што кахае,*
*Шэпча: «Же тэм»*
*у халодную даль.*

***Прыпеў:***
*Шчасцем забыты паэт*
*З лёсам Рэмбо ці Верлена*
*Піша класічны санет,*
*У рыфмах — крышталь.*
*На гіяцынтаў букет*
*Льецца святло іпакрэны.*
*Просіць кахання паэт,*
*І плача раяль.*

*Мокне мальберт.*
*Ля фантанаў — нікога.*
*Золата дня пачынае старэць.*
*І на Парыж апусцела дарога,*
*Толькі санет*
*можа сэрца сагрэць.*
***Прыпеў.***




# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

КАЗЯРОГ можа выкарыстаць прыхільнасць зорак, якія спрыяюць падарожжам, займанню навукай, выхаванню дзяцей і рамантычным прыгодам. Асцерагайцеся калег па працы, якія распускаюць пра вас злыя чуткі. Не варта дзяліцца з усімі дзелавымі планамі і паведамляць кожнаму пра стан уласных фінансаў.

ВАДАЛЕЯ астролаг папярэджвае аб з'яўленні чалавека, які паспрабуе выкарыстаць вашы магчымасці і ўплыў ва ўласных, прычым не зусім сумленных, мэтах. Будзьце ўважлівыя пры афармленні важных дакументаў, прыёме на працу новых супрацоўнікаў. Вялікай акажацца рызыка хатняга крадзяжу, і ўвогуле трэба быць падрыхтаваным да непрыемных нечаканасцей.

РЫБЫ павінны прызвычаіцца да перамен і дзейнічаць адэкватна ім. Пры адсутнасці прагрэсу ў бізнесе вінавацьце сваю нерашучасць. Пачынайце актыўныя дзеянні і тады дасягнеце поспеху. За працай не забывайцеся на блізкіх, якія без вашай увагі адчуваюць сябе адзінокімі.

АВЕНЫ будуць у стане мабілізаваць свае рэсурсы для ажыццяўлення задуманага. Ваша дзелавая хватка прынясе жаданы вынік і дазволіць «перагуляць» апанента, які прыносіў вам шмат клопатаў. Аднак сачыце за тым, каб барацьба з праціўнікам не нанесла шкоды вашым сябрам.

ЦЯЛЬЦЫ ў сваёй большасці будуць спакойна адпачываць ад людскіх клопатаў. А тых, каму давядзецца апынуцца на працы, чакае паспяховая дзейнасць. Вы атрымаеце адначасова адразу дзве заманлівыя дзелавыя прапановы, з якіх прыйдзецца выбраць адну — найбольш каштоўную. Любы падпісаны на працягу тыдня кантракт будзе паспяховым і гарантуе высокія даходы.

БЛІЗНЯТЫ змогуць атрымаць добрыя дывідэнды пры ўмове актыўнай працы. Прапановы аб павышэнні па службе паступяць ваенным і дзяржслужачым, хаця абяцанні аб кар'ерным росце спраўдзяцца пазней. Рэалізаваць сваю запаветную мару змогуць прадстаўніцы прыгожага полу, асабліва калі планы датычацца дзелавой дзейнасці.

РАК прапусціць добрыя магчымасці для пашырэння бізнесу. Аднак не варта засмучацца. Настойлівай працай вы зможаце нагнаць страчанае і дасягнуць большага. Гэта будзе магчымым, калі перастанеце спрачацца са сваімі дзелавымі партнёрамі і асмеліцеся на перамены ў сваёй манеры працаваць.

ІЛЬВАМ зоркі раяць заняцца будаўніцтвам новага дома, яго добраўпарадкаваннем і ўсімі звязанымі з гэтым справамі. Наперадзе ў вас шмат працы, якая прымусіць адмовіцца ад удзелу ў святкаванні і ад адпачынку. Праца будзе ўзнагароджана дадатковай аплатай, што будзе нялішнім пры набыцці дарагіх рэчаў для дома.

ДЗЕВА не павінна губляць аптымізму ў адносінах да будучай кар'еры. Падпісанне буйнога кантракта прынясе працвітанне ў недалёкай будучыні. Зоркі раяць у час магчымага падарожжа набыць нерухомасць, а калі паездка плануецца на Усход, то наладзіць у час яе новыя партнёрскія адносіны, якія абяцаюць выгаду.

ШАЛІ так паспяхова будуць весці справы, што не заўважаць, як узвалілі на сябе вельмі шмат абавязкаў на працы. Не будзьце прагнымі і падзяліцеся імі з партнёрамі ці калегамі. Пры гэтым не трэба прыспешваць падзеі, і абяцанае прыйдзе само да вас у рукі, але толькі з часам.

СКАРПІЁН не павінен цягнуць з аплатай рахункаў, інакш давядзецца плаціць па іх, калі з грашыма ў вас будзе цяжка. У дзелавой дзейнасці прыйдзецца сутыкнуцца з цяжкасцямі. Хтосьці будзе спрабаваць уставіць вам палкі ў колы. Вельмі актыўная барацьба з праціўнікам прынясе дадатковыя цяжкасці, і таму трэба прыдумаць іншыя сродкі для абароны сваіх інтарэсаў.

СТРАЛЬЦАМ трэба будзе прымаць жыццё такім, якое яно ёсць. Даходы ад рэалізацыі дзелавога праекта не трацьце марна, а накіроўвайце на пашырэнне бізнесу ці адкрыццё ўласнай справы. Магчымы лёгкі флірт у час падарожжа, а таксама з кімсьці, хто даўно побач з вамі.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР-ТАСС.**

## АКРАМЯ ЖАРТАЎ

### Ці любяць амерыканцы аплачваемыя водпускі?

Можа і любяць, але колькі ім даюць? Апытанне, праведзенае сярод кіраўнікоў 1.035 кампаній штата Ілінойс, паказала, што толькі аднаму працэнту сваіх падначаленых яны прадастаўляюць 20-дзённы аплатны водпуск пасля аднаго года работы. У 35 працэнтах кампаній такі водпуск можна атрымаць толькі пасля 10-гадовай «адпрацоўкі». Пераважная большасць амерыканскіх працоўных пасля 12 месяцаў работы можа разлічваць толькі на 10 дзён водпуску.

### Хто справіцца з леапардам-людаедам?

Жанчынай рухае бязмежная мацярынская любоў. Каля адной вёскі ў індыйскім штаце Хімачал-Прадэш на 10-гадовую дзяўчынку накінулася страшная дзікая кошка. Маці дзяўчынкі, якая знаходзілася тут жа, не раздумваючы, кінулася на выратаванне дачкі. Сутычка з леапардам цягнулася лічаныя секунды. Жанчыне нейкім чынам удалося засунуць адну руку глыбока ў пашчу драпежніка, а другой пачаць душыць яго за горла. У леапарда перахапіла дыханне, і ён не змог самкнуць пашчу з магутнымі клыкамі. На крыкі 45-гадовай Савітры Дэві аб дапамозе прыбеглі аднавяскоўцы, і лёс леапарда быў вырашаны.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

# КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 5. Сталіца дзяржавы ў Еўропе. 6. Часціна мовы. 9. Беларускі мастак. 10. Унутраная гарадская крэпасць у старых рускіх гарадах. 11. Беларускі пісьменнік, аўтар рамана «Вязьмо». 14. Зборнік вершаў М. Лужаніна. 16. Марская жывёла, якая жыве нерухомымі калоніямі на падводных скалах. 17. Народны танец. 18. Нізкія, забалочаныя, пакрытыя рознай расліннасцю берагі рэк. 19. Доўгая фраза, якая вымаўляецца прыўзнятым тонам. 23. Адзінка вымярэння ціску. 24. Сорт цэглы. 26. Верш Янкі Купалы. 28. Слой бярозавай кары. 30. Яда. 31. Прыток Прыпяці. 32. Адмоўнае меркаванне аб чым-небудзь. 33. Кароткія і дакладныя звесткі.

**Па вертыкалях:** 1. Вяшчун, прадказальнік будучыні. 2. Каштоўны камень рознай афарбоўкі. 3. Лясная ягада. 4. Прыстасаванне для перадачы або ўлоўлівання радыёхваляў. 5. Невялікі пушны звярок. 7. Месца ў тэатры для адпачынку, абмену думкамі. 8. Грашовая ўзнагарода. 12. Навука аб земляробстве. 13. Адна з асноўных частак сушы, акружаная акіянам. 15. Горад у Іране. 16. Прыбярэжнае суднаходства паміж портамі адной дзяржавы. 20. Балет А. Хачатурана. 21. Жывы арганізм, чалавек або жывёліна. 22. Песня кампазітара У. Мацецкага ў выкананні С. Ратару. 25. Мінерал, з якога вырабляюць суперфасфат, фосфарную кіслату, вапну. 27. Чылійскі паэт-класік. 28. Хімічны элемент, мяккі метал. 29. Трапічная расліна.

**Склаў Рыгор ЯКУШ.**
*г. Мінск.*



## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (9 лістапада). Па гарызанталях**: 7. Чуласць. 8. Патрэба. 11. Перашкода. 12. Трыпутнік. 14. Камяк. 15. Дзівосы. 16. Шамкі. 19. Скнара. 24. Якасць. 21. Чад. 23. Радно. 24. Адпал. 26. Пах. 29. Лупіна. 31. Сведка. 34. Куфар. 35. Палёгка. 36. Кадзь. 39. Паняверка. 40. Прагнасць. 41. Маркота. 42. Цясніна. **Па вертыкалях**: 1. Супесак. 2. Чарацянка. 3. Уцёкі. 4. Тарпа. 5. Пруткасць. 6. Абнімкі. 9. Адозва. 10. Браня. 13. Увага. 17. Лашавік. 18. Каганец. 21. Чоп. 22. Дах. 25. Куранятка. 27. Адзёр. 28. Скрананне. 30. Апаска. 31. Сякера. 32. Куравай. 33. Дзіцяня. 37. Песты. 38. Агляд.

**Галаваломка (9 лістапада).** Прымаўка злева такая: «Хто баіцца, таму ў вачах двоіцца», з правага боку — «Баязліваму і свой цень страшны».

## КРЫПТАГРАМА

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 7 | 8 | 9 | 16 | 13 | 2 | ○ |
| ○ | 4 | 3 | 14 | 2 | 11 | 9 | 1 | ○ | 10 |
| 15 | 2 | ○ | 10 | 2 | 13 | 13 | 9 | ○ | 5 |
| 4 | 13 | 9 | 3 | 1 | ○ | 10 | ○ | 9 | 15 |
| ○ | 6 | 9 | 2 | 13 | 13 | 9 | | | |

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка вядомую ўкраінскую прымаўку.

а) 1-2-3-4-5-6 — пэўны адрэзак часу; б) 7-8-9-10-2 — травяністая расліна з ядомымі лісцямі; в) 11-12-13-9-14 — вадкая прыправа для кансервавання прадуктаў; г) 15-12-16 — аповесць М. В. Гогаля.

**Склаў**
**Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

## ВІНШУЕМ

*Мілая мамачка* ***Арыяда Аляксандраўна ЛАНКОЎСКАЯ,*** *з днём нараджэння цябе! Здароўя, шчасця, усмешак і вечнай маладосці.*

**Сын Дзіма.**

*Сардэчна віншую ўнукаў* ***Дзіму ВАРОНІНА*** *і* ***Мікалая МАРГОЛІНА*** *з днём нараджэння. Жадаю шчасця, здароўя.*

**Дзед Марголін,** *г. Жлобін.*

*Вялікая і дружная сям'я Трайковічаў віншуе нашу матулю* ***Ірыну Маркаўну*** *з днём нараджэння. Здароўя табе, шчасця, любая.*

**Трайковічы** *з Мінска.*

*З днём нараджэння матулю* ***Марыю Іванаўну ШЧАРБІЦКУЮ.*** *«Пусть будет жизнь твоя подольше, пусть будет счастья в ней побольше. Пусть будет меньше трудных дней, живи, родная, не старей».*

**Дачка Галіна.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Ірыну Канстанцінаўну ТРАЙКОВІЧ.*** *Здароўя, шчасця, дабрабыту табе.*

**Трайковічы.**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 94665. Індэкс 63850.**
**Зак. № 7254.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**